

# Беларус

> БЕЦЕ Ў СЭРЦЫ ІХ —
> БЕЦЕ МЯЧАМІ!
> НЕ ДАВАЙЦЕ
> ЧУЖЫНЦАМІ БЫЦЬ!
>
> *Максім Багдановіч*
> *(1891-1991)*

**№ 378 Люты 1991**
Год выд. XL

**BIELARUS** / Byelorussian Newspaper in the Free World. Published by the Byelorussian-American Assn., Inc.
Address: P. O. Box 178, Jamaica, N.Y. 11432, U.S.A. Prise $ 2.50

**Арсень Загорны**

## «РАЦЫЯНАЛЬНЫ НАЦЫЯНАЛІЗМ» І ЭКАНОМІКА

У адным зь леташніх нумароў «ЛіМу» Сяргей Дубавец пісаў (арт. «Падставы рацыянальнага нацыяналізму»): «Трэба аднязначна зразумець, што Беларусь — калёнія ў зусім немэтафарычным сэньсе». І аўтар абгрунтоўвае гэтую сваю слушную выснову, але толькі аргумэнтамі гістарычна-культурнага парадку. Гэткая аргумэнтацыя, якой-бы ўнікілвай яна ні была, далёка не да кожнага даходзіць. Ня кожны дацэньвае важнасьць, скажам, літаратурных дасягненьняў нацыі або важнасьць моўнае чысьціні ці самабытнасьці нацыянальнага мастацтва. Аргумэнт гістарычна-культурнага характару ўспрыймаецца тым, у каго адпаведны эмацыянальны фон. Трэба быць азнаёмленым са сваёй літаратурай, трэба любіць яе, каб бедаваць над ейным заняпадам і далучацца да тых, хто паўстае супраць сілаў, што душаць нацыянальную культуру.

Мабілізацыя на абарону нацыянальных інтарэсаў Беларусі павінна быць пашыраная аргумэнтамі са сфэры эканомікі. Эканамічныя балячкі сёньня даймаюць кожнага, а культурныя, на жаль, мала каго. Той-жа Дубавец у сваім артыкуле кажа: «Нас толькі тысяча. Гэта толькі зародак нацыі...». Вось-жа сёньня перад гэтай «тысячай» стаіць пытаньне (і заданьне!): як стацца мільёнам? Бо толькі тады будуць шанцы забясьпечыць культурнае адраджэньне, чаго дамагчымся пры матар'яльнай беднасьці вельмі цяжка. Каб адбылося адраджэньне нацыянальна-культурнае, трэба дамагацца адраджэньня нацыянальна-эканамічнага. Народ, які абдзіраюць матар'яальна, будзе заўсёды бедны й культурна. У выпадку Беларусі гэтая ўзаемасувязь эканомікі й культуры даведзеная да абсалютнай відавочнасьці.

Хоць дэклярацыя аб дзяржаўным сувэрэнітэце Рэспублікі, прынятая 27 ліпеня 1990 году, у вялікай меры застаецца толькі на паперы, некаторыя аспэкты рэчаіснасьці радыкальна зьмяніліся. Цяпер беларускі ўрад сам шукае эканамічных сувязяў зь іншымі рэспублікамі, і да пэўнай меры з вонкавым сьветам, сам мусіць забясьпечваць прадпрыёмствы сыравінай, сам шукаць рынку збыту. І калі-б ня імпэрскі цэнтар, які больш грабе пад сябе, чымся дае, дык матар'яльная база Беларусі была-б куды багацейшая і справядлівейшая. Хоць для шмат каго гэта — аксіёма, для бальшыні грамадзянаў гэтую аксіёму трэба праілюстраваць, давесьці, паказаць на аснове фактаў і статыстыкі, што Беларусь больш траціць, чымся выйграе ад увахаджаньня ў савецкую фэдэрацыю. І ўжо цяпер пра матар'яльныя страты рэспублікі ў выніку залежнасьці ад маскоўскага цэнтру некаторыя эканамісты і дзяржаўныя асобы адкрыта гавораць, нават на старонках такое публікацыі, як «Коммунист Белоруссии».

Старшыня СМ БССР (прэм'ер) Вячаслаў Кебіч сказаў маскоўскай газэце «Рабочая трибуна» (28.XII.90): «Рэспубліка здабывае і пастачае краіне 60 працэнтаў калійных угнаеньняў, хтосьці іх рэалізуе за рубяжом, а Беларусь не дастала ніводнага даляра. Парадокс». Не, не парадокс! Для каляніяльнай імпэрыі — нармальная зьява, якая адно падмацоўвае тое, што напісаў у сваім артыкуле Сяргей Дубавец: «Трэба аднязначна зразумець, што Беларусь — калёнія ў зусім немэтафарычным сэньсе».

Але каб факт каляніяльнай залежнасьці быў «аднязначна зразумелы» кожнаму абывацелю, трэба паказаць увесь п'явачны характар гэтае залежнасьці, паказаць на аснове статыстычнага аналізу, канкрэтных лікаў і фактаў. Бо толькі пры шырокай грамадзкай перакананасьці, што праца народу йдзе ў імпэрскую казну, у якой поўна дзірак і няма дна, рацыянальны нацыяналізм прывядзе да стварэньня адпаведнай палітычнай базы для вызвольнага руху.

Калі-ж абыватель, выслухаўшы ўсю эканамічную аргумэнтацыю, усяроўна захоча застацца ў Саюзе, а не пайсьці незалежніцкім шляхам, дык прынамся Саюз тады, можа, станецца больш справядлівым, чымся той, які намагаюцца накінуць Беларусі цяперашнія цэнтрысты.

### БАЙКОТ РЭФЭРЭНДУМУ

На сходзе Беларускай Грамадзянскай Рады 16 лютага ў Менску быў прыняты заклік байкатаваць рэфэрэндум 17 сакавіка аб захаваньні Савецкага Саюзу. На сходзе быў таксама заснаваны клюб дэмакратычных дэпутатаў, мэта якога — згуртаваць беларускіх народных дэпутатаў усіх узроўняў. Клюб мае цяпер 110 сяброў.

### *50 ПРАЦЭНТАЎ БЕДНЫХ*

У БССР цяпер «50 працэнтаў насельніцтва жыве за рысай беднасьці», падала газэта «Чырвоная зьмена» (13.X.90). «Рыса беднасьці» вызначаецца 75 рублямі прыбытку на душу на месяц. Каб уявіць сабе, колькі гэта — 75 рублёў, вось некаторыя цэны ў канцы верасьня летась на Камароўскім рынку ў Менску, узятыя зь першага нумару «Народнай газеты» (2.X.90): сала сьвежае — 3,5-4 рублі (кг.), мяса (сьвініна) — 8-10 р., цяляціна — 10-13, яйкі (дзясятак) — 1,8-2, масла — 8-10, малако (літар) — 0,60-0,80, бульба — 0,80-0,90, капуста — 0,80-1, памідоры — 2-2,5-3, цыбуля — 1-1,5-2, часнок — 5-6, яблыкі — 0,80-1-1,5-2, грушы — 1-1,5-3-4-6, мёд — 7,5-8.

У мічасе магазыны яшчэ больш апусьцелі, а цэны на рынку растуць далей.

## АМЭРЫКАНСКІ ЖУРНАЛІСТ ПРА З. ПАЗЬНЯКА



*Зянон Пазьняк прамаўляе на мітынгу ў Менску.*

Тыя з Амэрыканцаў, што цікавяцца Савецкім Саюзам, ведаюць Гэдрыка Сьміта як назіральнага і ўніклівага журналіста. Сьміт даўгі час быў у Маскве карэспандэнтам газэты «Нью-Ёрк Таймс». Ён — аўтар колькіх кнігаў, у тым ліку кнігі-бэстсэлера пад заг. «Рускія». Летась у прэстыжным выдавецтве «Рэндам Гаўз» выйшла кніга гэтага аўтара — «Новыя Рускія». Як няцяжка здагадацца, гэта кніжка пра Савецкі Саюз часоў перабудовы. Піша ў ён Гэдрык Сьміт і пра Беларусь, дакладней кажучы — пра Курапаты і пра Зянона Пазьняка. Восьмы разьдзел кнігі «Сталінізм: адкрытая рана» пачынаецца двума эпіграфамі, адзін зь якіх чытаў так: «У Курапатах нават дрэвы плачуць».

Разьдзел пачынаецца словамі: «Курапаты не падобныя на Аўшвіц». Але чытачу неўзабаве стаецца ясна, што розьніца паміж фашысцкім канцлягерам Аўшвіц і Курапатамі толькі вонкавая, у існасьці-ж Курапаты былі гэткім-жа жудасным месцам масавага зьнішчаньня людзей, што й Аўшвіц.

Гэдрык Сьміт дае ў сваёй кнізе даволі дэтальнае апісаньне масавых магілаў у Курапатах, называе іншыя мясьціны навокала Менску, дзе бальшавікі праводзілі такія самыя злачынствы. Праваднікам Гэдрыка Сьміта па гэтых мясьцінах быў беларускі археоляг Зянон Пазьняк. Зянона Пазьняка сёньня на Беларусі, дый далёка паза ёй, ведаюць найбольш як лідэра Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» і дэмакратычнае апазыцыі ў Вярхоўным Савеце рэспублікі. Але пра гэта Гэдрык Сьміт піша мала. Пазьняк для яго — гэта перш-наперш чалавек, які выкрыў факт бальшавіцкага генацыду на Беларусі і які да глыбіні душы перажывае гэтае злачынства, якое беспасярэдня закранула і Пазьнякову сям'ю — ягоны дзед, дзеяч беларускай хрысьціянскай дэмакратыі ў Заходняй Беларусі, таксама загінуў у Курапатах.

Гэдрык Сьміт знаёміць чытача зь некаторымі мамэнтамі біяграфіі Зянона Пазьняка: вучыўся ў тэатральным інстытуце ў Менску; быў выгнаны зь інстытуту за іншадумства; запісаўся ізноў у інстытут, але на іншы факультэт; ізноў выгналі бо крытыкаваў Хрушчова; нарэшце скончыў факультэт археалёгіі, каб пасьля заняцца раскопкамі ў Курапатах...

Гэдрык Сьміт быў у Менску двойчы: у красавіку 1989 году і ўвосень таго-ж году. Абодвы разы сустракаўся ён з Зянонам Пазьняком, зьняў на відэаістужку тое, што бачыў у Курапатах. Дарэчы, матар'ял гэты Сьміт выкарыстаў для свае папулярнае сэрыі перадачаў «Унутры гарбачоўскага Савецкага Саюзу», што паказвалася нядаўна на амэрыканскім тэлебачаньні.

Гэдрык Сьміт апісвае ў сваёй кнізе, як цяжка было апублікаваць вынікі Пазьняковых раскопак у Курапатах, хоць гэта й было ўжо за часамі галоснасьці, у 1988 годзе. На перашкодзе публічнасьці стаяла «старая гвардыя» менскіх камуністаў. Пра Беларусь амэрыканскі журналіст кажа, што гэта «бастыён» кансэрватараў, штосьці наводзіць штатаў Алябама і Місісіпі, дзе зацятыя прыхільнікі расавае сэгрэгацыі супраціўляліся ў 1960-х гадох поступу грамадзянскіх правоў.

Кампанія, якую праводзіў Зянон Пазьняк, каб выкрыць праўду пра Курапаты, піша Гэдрык Сьміт, «гэта куды больш, чымся дамаганьне Беларусамі справядлівасьці ў дачыненьні да злачынцаў. Пазьнякова выкопваньне трупаў у Курапатах — гэта мэтафара для цэлага працэсу галоснасьці — бо Гарбачоў выкрывае таксама мінулае ды змушае савецкае грамадзтва зірнуць на палітычныя шкілеты свае гісторыі».

Адным з заданьняў арганізацыі «Мартыралёг Беларусі», на чале якое стаў Пазьняк, кажа Сьміт, было выкрыць усю праўду пра сталінскія злачынствы, але ўлады перагарадзілі гэтаму шлях. «Менская прэса, — піша Сьміт, — ведае менш пра дэталі (злачынстваў), чымся Пазьняк і Мартыралёг, а партыйныя лідэры адмаўляюцца гаварыць пра масавыя забойствы. Я колькі разоў прабаваў сустрэцца зь імі, але яны поўнасьцяй блякавалі мае звароты. Такое поўнае адмовы аб сустрэчаў я не спатыкаў нідзе ў Савецкім Саюзе».

### ДЗЕНЬ МАЛІТВЫ

У нядзелю 3 лютага 1991 году, з нагоды праклямаваньня Прэзыдэнтам ЗША Джорджам Бушам Ўсеамэрыканскага дня малітвы, у царкве Божае Маці Жыровіцкае ў Гайленд-Парку, Н.-Дж., быў адслужаны ўрачысты малебен. Малебен быў адслужаны пасьля сьв. Літургіі а. прат. Васілём Андрэюком. Усе вернікі шчыра прасілі Ўсемагутнага аб хуткім і бліскучым заканчэньні вайны ў Пэрсыдзкай затоцы і павароту ваякоў да сваіх сем'яў.

**BIELARUS**
Byelorussian Newspaper in the Free World
Published monthly by
BYELORUSSIAN-AMERICAN ASSOCIATION, INC.
**Subscription $ 25 yearly**
**«БЕЛАРУС»** — Газэта Беларусаў у Вольным Сьвеце.
*Выходзіць месячна* *Рэдагуе Калегія*
Выдае: Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне.
*Падпіска с перасылкаю 25 дал. на год.*
Артыкулы, прадпісаныя прозьвічам або ініцыяламі аўтара, могуць зьмяшчаць пагляды, зь якімі Рэдакцыя не згаджаецца.

**Янка Запруднік**

# СУПЯРЭЧНАСЬЦІ Ў ЗАКАНАДАЎСТВЕ СССР І БССР

«Ня нізкая культура вядзе да падпарадкаванасьці, а, наадварот, падпарадкаванасьць выклікае застой». — *Гоман № 1, 1884 г.*

Банкаўская сыстэма — гэта тыя жылы, па якіх, як кроў па целе, цякуць фінансавыя сродкі перабудоўванае савецкае эканомікі. Але на фінансавых «жылах» узьнікаюць вузлы. Вось адзін зь іх.

У Маскве 11 сьнежня летась, а ў Менску на тры дні пазьней, 14 сьнежня, былі прынятыя законы: у Маскве — «Аб дзяржаўным банку СССР», а ў Менску — «Аб нацыянальным банку БССР». Законы гэтыя пярэчаць адзін аднаму. Усесаюзны закон у колькіх месцах падкрэсьлівае, што ўлада Дзяржаўнага банку СССР пашыраецца на ўсю савецкую тэрыторыю ды што кіраўніцтву гэтага банку належаць выключныя правы ў такіх а такіх пытаньнях. У законе-ж Беларускай ССР няма ні слова ані пра Дзяржбанк СССР, ані нават пра Савецкі Саюз. Беларускі нацыянальны банк, кажа рэспубліканскі закон, падсправаздачны толькі Вярхоўнаму Савету рэспублікі, і толькі яму, нацыянальнаму банку БССР, належыць права эмісіі (выпуску) грошай. Артыкул 17-ты беларускага закону кажа: **«Нацыянальнаму банку БССР належыць выключнае права выпуску ў абарот (эмісія) і выключэньне з абароту наяўных грашовых знакаў на тэрыторыі рэспублікі».** А артыкул 18-ты ўдакладняе гэтае «выключнае права»: «Эмісія наяўных грошай ажыцьцяўляецца ў парадку, устаноўленым нацыянальным банкам Беларускай ССР».

А цяпер гляньма, што кажа пра выпуск грошай усесаюзны закон «Аб Дзяржаўным банку СССР». Чытайма артыкул 12-ты пад заг. «Эмісія наяўных грошай (грашовых знакаў)»: **«Выключнае права выпуску наяўных грошай у абарот і выключэньне з абароту належыць Дзяржаўнаму банку СССР** у адпаведнасьці з функцыямі рэзэрвавай сыстэмы».

Апрача гэтага, усесаюзны закон кажа, што рэспубліканскія банкі выступаюць «як арганічныя зьвеньні адзінае сыстэмы, у якой забавязаньні аднаго банку адначасна зьяўляюцца забавязаньнямі ўсіх астатніх банкаў».

Мала таго, кіраўніцтва Дзяржаўнага банку СССР, ягоная Цэнтральная рада, якая складаецца з 12 асобаў (зь якіх толькі 10 прадстаўляюць цэнтральныя рэспубліканская банкі; значыцца, ня ўсе саюзныя рэспублікі прадстаўленыя ў гэтым органе ўлады), мае права «прыпыніць дзеяньне ўказаньняў цэнтральных банкаў рэспублік у выконваньні функцыяў рэзэрвавай сыстэмы, якія супярэчаць дадзенаму Закону або пастановам Цэнтральнае рады».

Ёсьць у законе «Аб Дзяржаўным банку СССР» і іншыя артыкулы, што выразна пярэчаць закону «Аб нацыянальным банку БССР», які быў прыняты ў духу дэклярацыі Вярхоўнага Савету БССР «Аб дзяржаўнай сувэрэннасьці БССР».

Вось гэтак паглыбляецца прорва паміж рэспублікамі, што імкнуцца да незалежнасьці, ды імпэрскім цэнтрам, які намагаецца далей трымаць усё ў падпарадкаваньні сабе. Гэтая падпарадкаванасьць на працягу дзесяцігодзьдзяў і давяла да застою, зь якога павінна была вывесьці «перабудова». Але перабудова, як паказваюць апошнія падзеі, пачынае мяняць свой кірунак.

## ЗАЯВА АБ КРЭДЫТАХ: «ТОЛЬКІ НЕПАСРЭДНА БЕЛАРУСІ»

Дэпутаты Дэмакратычнага блёку Вярхоўнага Савету БССР зрабілі на пачатку сёлетняга году заяву аб крэдытах, «якія бярэ ад імя СССР Прэзыдэнт Гарбачоў». У заяве сказана, што пазычаныя фінансавыя сродкі «не даходзяць да беларускага народу». У сувязі з гэтым дэпутаты Дэмакратычнага блёку, выказаўшы сваю ўпэўненасьць у тым, што «Беларусь, якая абвесьціла аб сваім сувэрэнітэце, гэтак-жа, як і іншыя рэспублікі СССР, стане свабоднай і незалежнай дзяржавай», заявілі заходнім пазыкадаўцам: «Лічым неабходным паставіць вас у вядомасьць, што і цяпер, і ў будучыні мы ня можам узяць на сябе адказнасьць за вяртаньне гэтых крэдытаў. Заклікаем вас да больш цьвярозай палітычнай ацэнкі падзеяў, што адбываюцца як на Беларусі, так і ўва ўсім Савецкім Саюзе — унітарнай дзяржаве, якая паволі распадаецца. Толькі крэдыты, адрасаваныя непасрэдна Беларусі, могуць дайсьці да яе народу».

### «ЧАРНОБЫЛЬ НА БЕЛАРУСІ»

Пад гэткім загалоўкам выдадзеная ў Дёнюнае англамоўная брашура (ілюстраваная картай пашырэньня радыяцыі на Беларусі). У ёй а. Аляксандар Надсон апісвае цяжкое палажэньне, у якім ён бачыў Беларусь улетку 1990 г., калі завозіў туды, разам із сп. М. Баяроўскім, мэдыкамэнты й абсталяваньне на дапамогу ахвярам Чарнобыля. Ачольваны а. Надсонам Беларускі Камітэт Дапамогі Ахвярам Радыяцыі праводзіць далей збор грошай на закуп сканэраў, патрэбных для раньняга дыягназу ракавых захворваньняў), якія асабліва пашыраныя сярод дзяцей. Пісаць трэба на адрас: Byelorussian Radiation Relief Appeal, Marian House, Holden Avenue, London N12 8HY, Englad. Чэкі выпісваць на: Byelorussian Mission Trust (Radiation Relief).

## «СУВЭРЭНІТЭТ» РЭСПУБЛІКІ



*Гэтак выглядаюць паводле менскай публікацыі «эксПРЕСС» (лістапад 1990) тры «асілкі» Беларускае Рэспублікі (зьлева): Яфрэм Сакалоў — былы першы сакратар ЦК КПБ, Вячаслаў Кебіч — старшыня Савету Міністраў БССР (прэм'ер), і Мікалай Дземяньцей — старшыня Вярхоўнага Савету БССР (прэзыдэнт).*

## ЧАРНОБЫЛЬ: СУД НАД ЗЛАЧЫНЦАМІ

Пракуратура СССР, рэагуючы на «шматлікія звароты народных дэпутатаў», разгледзела справу засакрэчваньня афіцыйнымі асобамі дадзеных аб выніках аварыі на Чарнобыльскай атамнай электрастанцыі і «пачала крымінальную справу паводля прыкметаў злачынстваў, за якія прадбачыцца адказнасьць афіцыйных асобаў за злаўжываньне службовым становішчам і неналежнае выкананьне сваіх абавязкаў». («Известия», 7.II.91)

## У АБАРОНУ ПРЫБАЛТЫКІ

**Пэрт, Зах. Аўстралія. —** У адказ на здушэньне савецкай арміяй незалежнасьці Летувы Рада Балтыцкіх Народаў арганізавала мітынг пратэсту, які адбыўся ў сыботу 12 студзеня на скрыжаваньні вуліцаў Ўільям і Гай перад царквой Ўэсьлі. Сярод сьцягоў, што былі пастаўленыя на падвышэньні, салідарна павяваўся і беларускі нацыянальны сьцяг. Уздоўж вуліцаў былі разьмешчаныя транспаранты. На іх былі паказаныя лікі панішчаных бальшавікамі людзей у рэспубліках і выпісаныя дамаганьні рэспублікаў поўнае незалежнасьці. У сваёй прамове старшыня Рады Балтыцкіх Народаў, гаворачы пра здушэньне савецкай арміяй летувіскай незалежнасьці, сказаў таксама пра нечалавечае гаспадараньне й русыфікацыю Беларусі, Украіны ды іншых рэспублік СССР. На мітынгу быў прыняты зварот да фэдэральнага ўраду Аўстраліі, каб Аўстралія не давала Маскве ніякае дапамогі і дамагалася накладу санкцыяў.

### БССР: КААПЭРАТЫЎНЫ РУХ РАСЬЦЕ

Каапер态тывы Беларусі далі летась 10 працэнтаў нацыянальнага валавога прадукту. Паводля Мікалая Сушы, старшыні саюзу кааператываў БССР, сёньня ў Рэспубліцы налічваецца крыху больш за пяць з палавінаю тысячаў кааператываў, у якіх занятыя 135 тысячаў чалавек. Асабліва бурна разьвіваюцца будаўляныя каапэратывы, колькасьць якіх дасягае да дзьвюх тысячаў.

## АЎСТРАЛІЙСКІ ЧАСАПІС ПРА ЧАРНОБЫЛЬ

Выдаваны ў Нью-Ёрку адзьдзелам Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня бюлетэнь «Весткі й паведамленьні» (№ 211, рэд.-выдавец А. Міцкевіч, старшыня адзьдзелу БАЗА) зьмясьціў фатастат артыкулу з часапісу The Australian Magazine пад заг. «Праўда пра Чарнобыль». Аўтары артыкулу — Ўолтэр Эліс, Вера Рыч і Джэймс Бліц — апісваюць нядолю жыхароў чарнобыльскай зоны, пішуць пра прыхоўваньне ўладамі запраўдных прычынаў ракавых захворваньняў дзяцей, згадваючы таксама наведаньне зоны а. Аляксандрам Надсонам, Апостольскім візытатарам для Беларусаў.

*Чарнобыльскія дзеці*

## НА ЛЕТНІ СЭЗОН У АНГЛІЮ

Лёнданская каталіцкая газэта Catholic Family (No 7, Winter 1990), орган Нацыянальнай Асацыяцыі Каталіцкіх Сем'яў (НАКС), апублікавала адозву аб дапамозе беларускім дзецям-ахвярам чарнобыльскай радыяцыі зь інфармацыяй пра беларускі фонд дапамогі, арганізаваны а. Аляксандрам Надсонам у Лёндане. Пасьля выступленьня а. Надсона перад групай дзеячоў НАКС, піша газэта, брытанскія сем'і ў правінцыі Ўсходняя Англія згадзіліся ўзяць да сябе 14 дзяцей на летні сэзон.

### ФОНД ДАПАМОГІ ЧАРНОБЫЛЬСКІМ АХВЯРАМ У БЕЛАРУСІ

Фонд Дапамогі Чарнобыльскім Ахвярам у Беларусі, арганізаваны пры БАПЦ (старшыня — Архепіскап Мікалай), разаслаў да царкоўных прыходаў, усіх беларускіх арганізацыяў і сурозічаў заклік не пакідаць справы дапамогі пацярпелым ад Чарнобыля. Дапамогу просіцца слаць (выпісваючы чэкі на Chernobyl Victims) на адрас:

у ЗША і інш. краінах:

B.A.O.C. Consistory
9 River Road
Highland Park, NY. 08904

У Канадзе:
Parish of St. Kiryla of Turau
524 St. Clarens Avenue
Toronto, Ont M6H 3W7



*Прафэсар Томас Бэрд на фоне скарынаўскае выстаўкі, арганізаванае ім у будынку бібліятэкі Квінскага каледжу (які ўваходзіць у сыстэму Гарадзкога Ўнівэрсытэту Нью-Ёрку), дзе праф. Бэрд выкладае славістычныя і іншыя гуманітарныя дысцыпліны. Выстаўка была адкрытай на працягу студзеня 1991 году.*

*Шчыра вітаем*
**сп-ню ВАЛЯНТЫНУ ПАШКЕВІЧ**
*пэдагога, аўтара падручніка Fundamental Byelorussian і грамадзкую дзеячку зь 75-мі ўгодкамі жыцьця, што споўніліся 5 лютага 1991 г., ды зычым добрага здароўя і далейшае плённае працы.*
**Управы БІНІМ, БАЗА і рэдакцыя газэты «Беларус»**

# 9-Я СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ АЎСТРАЛІІ
**у Адэляйдзе, 6-10.І.1991**

У нядзелю 6-га пачалі зьяжджацца госьці й дэлегаты зь іншых штатаў Аўстраліі. Працы з расквартэраваньнем іх было шмат, але зь ёю добра справіліся адказныя за гэтую справу спсп. Янка Аршанскі і Ўладзімер Калесьніковіч. Увечары таго-ж самага дня была адслужаная вячэрня, пасьля якое людзям прыемна было правесьці крыху часу ў гутарках ля царквы. Куцьцю спраўляў кожны ў сябе ўдома разам з гасьцямі.

Першы дзень Калядаў, панядзелак, пачаўся багаслужбай у ўпрыгожанай жывымі кветкамі царкве. Сьв. Літургію адслужыў а. Міхась Бурнос. Надзвычай добра сьпяваў хор пад кіраўніцтвам сп. Ул. Калесьніковіча. Папаўдні ў раскошнай і ахаладжанай залі польскага дому імя Капэрніка адбыўся канцэрт Сустрэчы на які прыбыло 150 асобаў. Сцэна была ўдэкараваная Пагоняй ды беларускім нацыянальным і аўстралійскім сьцягамі.

Сп. Мікалай Калесьніковіч, старшыня Беларускага Аб'еднаньня Паўдзённай Аўстраліі прывітаў усіх, падзякаваў за прыбыцьцё й падрыхтаваньне праграмы. Вольга Бурнос прадэклямавала верш «Наша мова». Афіцыйна адкрыў сустрэчу сп. Аўген Груша, старшыня Фэдэральнай Рады Беларускіх Арганізацыяў Аўстраліі. Ён прыгадаў тых, хто адыйшоў на той сьвет, адзначыў, што моладзь не памагае нам, але яны не вінаватыя, сказаў ён, бо чуюцца Аўстралійцамі. Прамоўца гаварыў пра вялікія зьмены на Беларусі, пажадаў усім добра й весела правесьці спатканьне.

Па супольным адсьпяваньні беларускага нацыянальнага гімну сп. П. Гуз, сакратар Фэдэральнай Рады, прачытаў прывітаньні ад Беларускага таварыства «Бацькаўшчына», ад міністра замежных справаў БССР сп. Пятра Краўчанкі, ад сп. Зуя, старшыні Беларускай Цэнтральнай Рады, а таксама ад шмат якіх іншых беларускіх арганізацыяў.

Сп. Міхась Лужынскі прачытаў рэфэрат пра Максіма Багдановіча, прадэклямаў Багдановічаў верш, а пасьля вельмі ўдала вёў праграму канцэрту. Гэты чалавек вельмі здольны пацешыць публіку.

На нашым зьезьдзе былі тры асобы зь Беларусі.

У мастацкай частцы праграмы выступілі: хор з Адэляйды пад кіраўніцтвам а. М. Бурноса, акампаніятар Мікалай Андрусік, жаноцкі хор з Адэляйды, Ляра Кандрусік (сьпеў), Аўген Груша (вершы, песьня), Галя й Ляра Кандрусік (сьпеў), Юльлян Кадрусік (музыка), Васіль Яновіч і Мікалай Кандрусік (сцэнка), хор маладых дзяўчатак «Каліна» з Мэльбурну. Усе разам прасьпявалі малітву «Магутны Божа».

*(Працяг на 6-й б.)*

## РАДА БЕЛАРУСКАЕ НАРОДНАЕ РЭСПУБЛІКІ САКРАТАРЫЯТ ФІНАНСАЎ
### ДАР САКАВІКА

Сакавік — месяц абвешчаньня незалежнай Беларускай Народнай Рэспублікі — БНР. Нягледзячы на цяжкія ўмовы ды варожасьць і з Усходу і з Захаду, дзякуючы вялікай і адданай працы змагароў-патрыётаў, ідэя незалежнай БНР не замерла.

Пасьля апошняй вайны прышлі моцныя, маладзейшыя сілы ў беларускі адраджэнскі рух і ўзмоцнілі рух за ажыцьцяўленьне ідэі БНР. Тое, што сёньня адбываецца ў нашай Беларусі і ў цэлым Савецкім Саюзе, павінна нас абнадзейваць у тым, што ідэя самастойнай БНР — гэта ўжо рэальнасьць недалёкай будучыні. Усім ведама, што наша эміграцыя ўкладала і сёньня ўкладае шмат ахвярнай працы і сродкаў у рэалізацыю ідэі БНР. Аднак-жа, каб праводзіць пасьпяхова грамадзка-палітычную дзейнасьць, патрэбныя фінансавыя рэсурсы. У першыя гады пасьля вайны быў створаны Фонд Рады БНР, які й праводзіць збор дабраахвотных ахвяраў сярод усіх дабразычлівых нашых суродзічаў, што жывуць у краінах вольнага сьвету.

Няхай кожны Беларус не адмовіцца скласьці сваю ахвяру на падпісную лісту «Дар Сакавіка», калі прадстаўнік Фонду Рады БНР зьвернецца да яго. Таксама, хто жадае, можа пераслаць сваю ахвяру беспасрэдна на паданы ніжэй адрас скарбніка Рады БНР:

Vitaly Kazan
183 Lawn Ave.
Stamford, CT 06902
U.S.A.



**Зь ліста ў Рэдакцыю**

## ПЕРАКЛАД СЬВЯТОГА ПІСАНЬНЯ

Сп. Васіль Сёмуха, дачуўшыся пра занепакоенасьць амэрыканскіх і канадыйскіх Беларусаў лёсам перакладу Сьв. Пісаньня, якім ён займаецца, — «нібыта зь нейкіх там прычынаў Сёмуха прыпыніў працу» — папрасіў рэдакцыю «Беларуса» паведаміць, што «ў гэтых чутках далі бог-ведама ніякае праўды няма й быць ня можа».

Сп. Сёмуха піша: «Праца йдзе. Не магу пахваліцца тэмпамі, якіх прагне душа мая, але, мабыць, варта будзе згадзіцца, што Біблія — гэта ня тая кніга, пры перакладзе якой лішняе шчыраваньне ў хуткасьцях можна ўважаць за станоўчую якасьць.

«На апраўданьне сваё скажу: Новы Запавет перакладзены цалкам. Беларуская Праваслаўная Царква цяпер гэты пераклад чытае, зьвярае з грэцкім арыгіналам, рыхтуе свае заўвагі, — словам, як у добрых людзей вядзецца — ідзе падрыхтоўка выданьня, спакойна, бязь лішняга ляманту. Паралельна з рэдагаваньнем тэксту сёлета (ліст сп. Сёмухі датаваны 16.X.90) маецца выйсьці ў сьвет Евангельле ад Мацьвея асобным выданьнем, а налета, дасьць Бог, і ўвесь Новы Запавет.

## ПЕРАКЛАД ДЗЬВЮХ КНІГАЎ СТАРОГА ЗАПАВЕТУ

У зборніку перакладаў замежнай літаратуры «Далягляды 1990» зьмешчаны пераклад «Кнігі Эклезіятста, альбо Прапаведніка» і «Найвышэйшай песьні Саламонавай» (бб.187-214), зроблены Васілём Сёмухам. У ўводным слове перакладчык зазначае: «Гэта пакуль што папярэдні, неканчатковы варыянт (бо яшчэ не багаслаўлёны царквою)». Гэтыя дзьве кнігі Старога Запавету, кажа перакладчык, ўваходзяць «у праграму поўнага перакладу Бібліі на беларускую мову, у праграму ўзнаўленьня духоўных і рэлігійных каштоўнасьцей беларускага народу, безь якой немагчымае самаўсьведамленьне нацыі. Справа гэтая распачата па ініцыятыве Беларускай праваслаўнай царквы і Прэасьвяшчэннага мітрапаліта Мінскага і Гродзенскага, Патрыяршага экзарха Беларусі Філарэта. Ініцыятыва падтрымана пратэстанцкімі цэрквамі Беларусі: евангельскіх хрысьціян-баптыстаў і хрысьціян веры евангельскай (пяцідзесятнікаў), а таксама грамадзкім рухам Беларусі за перабудову БНФ 'Адраджэньне' ».

## В. КОРБУТ І ЧАРНОБЫЛЬ

Вялікі артыкул пра Вольгу Корбут і дапамогу ахвярам Чарнобыля чытайце ў амэрыканскім часапісе *People* (4.III) і ў газэтах (за 26.II): *New York Post, U.S. Today, Newsday.*

## ВЕРШЫ МАСЕЯ СЯДНЁВА

Часапіс «Полымя» (№ 11/90) зьмясьціў дваццаць вершаў Масея Сяднёва. Генадзь Бураўкін, сам паэт, а цяпер кіраўнік місіі БССР пры ААН у Нью-Ёрку, у ўводным слове піша: «Я прачытаў усе тры кнігі Масея Сяднёва, выдадзеныя па-беларуску за мяжой — 'Патушаныя зоры' (Нью-Ёрк — Мюнхэн, 1975), 'Ачышчэньне агнём' (Глен-Коў — Нью-Ёрк, 1985) і 'А часу больш, чым вечнасьць' (Глен-Коў — НьюЁрк, 1989), — і магу з усёй адказнасьцю сьцьвярджаць, што паэт ён таленавіты, працавіты і пладавіты, вельмі шчыры, чулы і чульлівы, з добрай вясковай памяцьцю і нязбытнай павагай да ўсяго роднага, беларускага. Думаю, зусім несправядліва, што яго творчасьць столькі гадоў была выключана з працэсу разьвіцьця нашай літаратуры». (б.108)

## ПРА БЕЛАРУСЬ НА КАЛЮМБІЙСКІМ УНІВЭРСЫТЭЦЕ

У Інстытуце паглыбленага вывучэньня СССР імя Аврэла Гарымэна Калюмбійскага ўнівэрсытэту ў Нью-Ёрку сябра Беларускага Інстытуту Навукі й Мастацтва др. Янка Запруднік прачытаў 8-га лютага лекцыю на тэму «Сучаснае палітычнае і культурнае палажэньне ў Беларусі». Слухачамі, каля двух дзесяткоў асобаў, былі выкладчыкі ВНУ, дыпляматы й спэцыялісты-саветолягі. Пасьля гадзіннага выкладу другая гадзіна была прысьвечана дыскусіі, др. Запруднік адказаў на пытаньні, зьвязаныя з тэмай дакладу.

Уладзімер Скрабатун

# СКАРЫНАЎСКІ ЮБІЛЕЙ У РЫЗЕ

У сталіцы Латвіі Рызе, 12 і 13 сьнежня 1990 года, адбыліся ўрачыстасьці з нагоды 500-х угодкаў ад нараджэньня беларускага першадрукара Францішка Скарыны, якія ладзіла Латвійскае таварыства беларускае культуры «Сьвітанак». На ўрачыстасьці да рыжскіх Беларусаў прыехалі менскія пісьменьнікі й навукоўцы: В. Чамярыцкі, С. Панізьнік, А. Лецка, артысткі: Т. Дзягілева, Г. Мархель ды фальклёрны гурт «Купалінка».

У першы дзень, 12 сьнежня, а 18 гадзіне ў Музэі гісторыі мэдыцыны імя Паула Страдыня адкрылася ўрачыстае паседжаньне з удзелам сяброў «Сьвітанка», прадстаўнікоў латышскай грамадзкасьці і гасьцей зь Менску. Над сцэнай — бел-чырвона-белы сьцяг і партрэт Скарыны работы рыжскага беларускага мастака Вячкі Целеша. Акадэмік Вячаслаў Чамярыцкі, які апошнія пяць гадоў прысьвяціў дасьледваньню спадчыны Скарыны, распавёў аб гісторыі кнігадрукаваньня ў Эўропе і аб той ролі, якую адыграла асьветніцкая дзейнасьць першадрукара ў гісторыі беларускага народу.

Супрацоўнік музэю, Беларус Аркадзь Хазанаў, згадаў тыя часы, калі на Беларусі адзначаліся 400-я ўгодкі беларускага кнігадрукаваньня, а менавіта ў яго родным Гарадку на Віцебшчыне, але гэта адбывалася ня ў 1917 годзе, а значна пазьней, пасьля далучэньня паветаў Віцебшчыны да БССР. Ён між іншым сказаў, што ў тыя 20-я гады, у адрозьненьне ад цяперашніх, ніхто ніякага супраціву не рабіў беларусізацыі, і яна праводзілася як на партыйным, так і на дзяржаўным узроўні, на кіруючыя пасады ставілі людзей, якія добра ведалі родную мову.

Паэт Сяргей Панізьнік — зьбіральнік і дасьледчык творчасьці беларускіх паэтаў колішняй незалежнай Латвійскай Рэспублікі, прачытаў некалькі іхніх вершаў, а таксама адзначыў, што бацька Скарыны, які быў полацкім купцом, браў у Рыгу з сабою і юнага Францішка, дзе ён пазнаёміўся з высокай эўрапейскай культурай, і, магчыма тут, у яго ўзьніклі ўпяршыню думкі прысьвяціць сябе асьвеце роднага народу.

Колькі слоў было сказана аб тым, што Беларусы й Латышы спрадвеку жылі па суседзтву, дый беларускі этнас сфармаваўся з балтыйскіх і славянскіх плямёнаў — таму ў нашых мовах ёсьць шмат падобных слоў, напрыклад, беларускае слова «сябар» — блізкае па сэнсу латышскаму «сабрыс» (сваяк, сусед), ці наша слова «весьніца» — адпавядае латышскаму «віесніца» (гасьцініца), дый латышская назва Беларусі — «Балткрэвія» — найболыш адпавядае сапраўднасьці, бо Беларусы паходзяць ад племя Крывічоў.

У тым, што ўрачыстасьці праходзілі ў Музэі гісторыі мэдыцыны, таксама ёсьць некаторая сымболіка, бо Скарына ня толькі быў першадрукаром, але і ў «науках вызволеных и в лекарстве доктор». Старшыня таварыства «Сьвітанак» Сяргей Кузьняцоў, мэдык па прафэсіі, прачытаў даклад, у якім распавёў аб узроўні мэдыцыны ў часы Скарыны і якімі лекамі і зёлкамі карысталіся лекары ў тыя часы.

Аўген Лецка, старшыня згуртаваньня «Бацькаўчына», паведаміў прысутным, што ў Менску створана Згуртаваньне Беларусаў сьвету «Бацькаўшчына», а таксама расказаў аб той дзейнасьці, якую мяркуе праводзіць згуртаваньне.

На другі дзень, 13 сьнежня, а 18 гадзіне, у Доме культуры прафсаюзаў «Маза Гілдэ» ўрачыстасьці былі працягнуты. У фае адкрылася выстава карцін работы рыжскага беларускага мастака Валерыя Дзівіськібы. Сярод работ — краявіды беларускай прыроды і партрэты слынных сыноў Беларусі: Скарыны і Агінскага. Быў арганізаваны продаж беларускіх кнігаў і часопісаў, а таксама газэтаў: «Свабода», «Навіны БНФ», «Наша слова», «Гоман». У гатычнай залі былой Малой купецкай гільдыі, якая так адпавядала духу й часу Скарыны, адбыўся канцэрт з удзелам менскіх артыстаў. Актрыса Галіна Дзягілева паставіла монаспэктакль «Выгнаньне ў рай», а кінаактрыса Тацьцяна Мархель распавяла прысутным аб здымках фільму «Маці ўраганy», дзе яна грала адну з роляў. Затым выступаў вядомы фальклёрны гурт «Купалінка», які пакінуў у рыжскіх Беларусаў незабыўнае ўражаньне. Сярод прысутных, а іх сабралася ня менш трохсот, знайшліся ахвотныя ўступіць у лік новых сяброў таварыства «Сьвітанак». Быў адзін цікавы момант. У перапынку канцэрту адзін зь лідэраў таварыства, Адольф Дамінікавіч Жук, правёў агітацыю на падпіску газэты «Літаратура і Мастацтва». Ён сказаў, што ня гледзячы на тое, што тэрмін падпіскі скончыўся, у яго ёсьць дамоўленасьць зь Менскам (у якасьці выключэньня для Беларусаў Рыгі) наконт дазволу падпісацца на 15 паасобнікаў «ЛіМу». Спадар Жук прадставіў газэту як адзіную газэту на Беларусі, якая піша праўду аб сёньняшніх днёх і аб мінулай гісторыі Беларусі, а не аб той гісторыі, якую нам даюць бальшавікі. Жадаючых падпісацца знайшлося значна больш, чым было паасобнікай газэты. Тут на месцы і былі сабраныя грошы на падпіску і аформленыя квітанцыі. Добры прыклад для перайманьня на Бацькаўшчыне — як трэба праводзіць падпісную кампанію на прагрэсыўныя выданьні.

Вялікая заслуга ў тым, што мерапрыемствы па сьвяткаваньню 500-х угодкаў ад нараджэньня Ф. Скарыны ў Рызе прайшлі пасьпяхова, належыць шчыраму беларускаму патрыёту, рыжскаму мастаку Вячаславу Целешу.

г. Вэнтсьпілс, Латвія.

## *ПЛЯНУЕЦЕ НАВЕДАЦЬ БЕЛАРУСЬ?*

Вам можа дапамагчы ўжыцьцёвіць вашы пляны турыстычнае агенцтва «Бацькаўшчына», якое мае падрыхтаваныя маршруты, калектыўныя або індывідуальныя, да Навагрудка, Нясьвіжа, Гародні, Вільні ды іншых гарадоў, а таксама да беларускіх сьвятыняў — полацкай Сафіі і Жыровіцкага манастыра. Прапануюцца таксама індывідуальныя туры для наведаньня родных мясьцінаў. Дарэчы, з прыбыткаў ад турызму «Бацькаўшчына» будзе рабіць адлікі на дапамогу ахвярам Чарнобыля і на адраджэньне беларускай культуры — рэстаўрацыю помнікаў, адкрыцьцё культурных і духоўных цэнтраў.

Кошт абслугі замежнага турыста (за адну асобу на адны суткі): 60 рублёў. Разьлік робіцца ў валюце тае краіны, адкуль турыст.

Зацікаўленых просяць зьвяртацца па далейшую інфармацыю да дырэктара турыстычнага агенцтва «Бацькаўшчына» сп-ні Людмілы Пеціпай на адрас: 220020 Менск, вул. Л. Украінкі, 16 (тэл.: 53-60-34, 54-80-56; факс: 34-65-15 Амкадор для Комкона).

Прапануюцца таксама турыстычныя вандроўкі па Беларусі і за ейныя межы ў СССР.

# АБ ПРАЦАХ В. ТУМАША Ў «ВЕСЬЦЯХ» АН БССР

*«Анты»-пазыцыя М. Б. Батвіньніка*

Сем старонак 5-га леташняга нумару «Весьцяў» АН БССР, сэрыі грамадзкіх навук, прысьвечаныя апісаньню скарынаведнае працы, якая праводзілася ў Беларускім Інстытуце Навукі і Мастацтва ў Нью-Ёрку, найбольш др. Вітаўтам Тумашам (псэўданімы: Сымон Брага і Р. Максімовіч).

Аўтар агляду скарынаведных працаў, апублікаваных у 5-й, 12-й, 16-й, 17-й і 18-й кнігах «Запісаў» БІНіМу, — М. Б. Батвіньнік. Батвіньнік даволі дэтальна пераказаў зьмест бінімаўскай скарыніяны, але прадэманстраваў разам з тым і сваю ідэйную «пільнасьць» — удаўся ў палеміку, якую ён вядзе не без галаслоўнасьці.

Прыкладам, у бібліяграфічным даведніку ў 5-й кнізе «Запісаў» Батвіньнік бачыць «самарэкляму». У чым гэтая «самарэклама» выявілася, аглядальнік не сказаў.

В. Тумаш, паводле Батвіньніка, «паказаў усю сваю варожасьць да савецкага скарыназнаўства». У чым гэтая «врожасьць», ізноў-жа не сказана.

«Што датычыць адкрыцьця А. А. Турылава, — піша Батвіньнік, — тут ён (В. Тумаш) запазычыў ад яго». Танная спроба абвінаваціць др. Тумаша ў плягіяцтве. У сваім артыкуле «Акрастыхі Францішка Скарыны» ( «Запісы», кн. 16, б. 99) др. Тумаш выразна напісаў, што акрастыхі (акравершы) «былі заўважаныя А. А. Турылавам». І Тумаш даў апісаньне акрастыхаў, чаго Турылаў не рабіў.

Тумаш з Флароўскім, дасьледуючы ў сваім ліставаньні скарынаўскую спадчыну, паводле Батвіньніка, «знаходзяцца на розных мэтадычных і сьветапоглядных узроўнях». У чым іхная «рознасьць», — для чытача, а можа й для самога Батвіньніка — загадка. Не падмацаваў ніводным прыкладам Батвіньнік і свайго абвінавачаньня «амэрыканскіх аўтараў» у «антысавецкіх выпадах».

Батвіньнік не пазбыўся яшчэ, відаць, нажытага ў застойную пару страху, які змушае яго самастрахавацца.

---

***НОВАЯ КНІГА!***

Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва выдаў чародную кнігу ў сэрыі «Беларускія паэты й пісьменьнікі»:

ЗБОР ТВОРАЎ **МІХАСЯ КАВЫЛЯ** «МІЖАГНЁЎЕ»

Кніга на 372 старонкі, багата ілюстраваная, зь бібіліяграфіяй і паказьнікам ды аўтабіяграфіяй паэта. Англамоўны ўступ праф. Томаса Бэрда. Рэдагавалі кнігу Антон Адамовіч, Зора Кіпель і Янка Запруднік, вокладку апрацавала Ірэна Рагалевіч-Дутко.
Кніга выдадзеная ў друкарні Міколы Прускага.
Цана зборніка — 25 даляраў. Выпісваць можна праз газ. «Беларус».

---

# МІСІЯ РАТУНКУ Й ДАПАМОГІ

**Дастойны Пол Мор у Менск па «Зорачку» для Нью-Ёрку**

25 лютага выехаў зь Нью-Ёрку ў Менск Амэрыканец, якога ведаюць і беларускія дзеці, і народныя дэпутаты Беларусі. У студзені сёлета гэтаму чалавеку была ўручаная найвышэйшая ўзнагарода — ганаровая грамата Вярхоўнага Савету БССР за выдатную дапамогу беларускім дзецям, што пацярпелі ад чарнобыльскай радыяцыі. Чалавек гэты — сьвятар царквы Сьв. Юр'я ў Нью-Ёрку Пол Мор. Дастойны Пол Мор — таксама прапаведнік радыяпраграмы «Сытыгоўп», празь якую зьбіраюцца ахвяраваньні й даецца дапамога тым, каго напаткала няшчасьце, беднасьць, бяздомнасьць.

Калі летась амэрыканскі сьвятар Пол Мор, трапіўшы на Беларусь, пабачыў там, якое нячшасьце перажываюць Беларусы ў выніку чарнобыльскай кастрофы, ён адразу-ж узяўся за справу дапамогі беларускім дзецям. Ён ужо двойчы быў на Беларусі, куды завёз мэдыкамэнтаў і мэдычнага абсталяваньня на сотні тысячаў даляраў.

На пачатку студзеня сёлета Пол Мор разам з жонкай Шэран правялі ў Менску праваслаўныя Каляды зь беларускімі дзецьмі-ахвярамі чарнобыльскае радыяцыі.

Акцыя дапамогі разгортаецца далей. Дастойны Мор ізноў пехаў у Маскву й Менск, каю абладзіць там фармальнасьці лячэньня ў Злучаных Штатах аднае маленькае пацыенткі зь менскага шпіталя.

Сьвятар Пол Мор робіць таксама заходы, каб у Амэрыку прыбыў зь Менску на гастролі дзіцячы фальклёрны ансамбль «Зорачка». Да ансамблю належаць 37 дзяцей у веку ад 6 да 14 гадоў. З «Зорачкай» прыедзе таксама двое дзяцей-мастакоў, якія прывязуць малюнкі з заражанага радыяцыяй гораду Нароўля. Мэтай прыезду «Зорачкі» на гастролі ў штаты Нью-Ёрку, Нью-Джэрзы і Пэнсыльванія ў канцы сакавіка — пачатку красавіка будзе сабраць прынамся 15 тысячаў даляраў на рахунак Беларускага Дзіцячага Фонду для ратаваньня дзяцей ад радыяцыі.

**«БЕЛАРУСКІ КАЛЕКЦЫЯНЕР» № 1**

Летась у Воршы выйшаў першы нумар газэты «Беларускі калекцыянер», выдадзены арганізацыйным камітэтам Беларускага таварыства калекцыянераў. Сярод іншых матар'ялаў у нумары зьмешчаны вялікі артыкул Язэпа Барэйкі «425-я ўгодкі беларускай пошты» і Вітаўта Зубкоўскага «Калекцыі беларусікі на Захадзе». Абодвы аўтары жывуць на Захадзе.

У звароце «Да калекцыянераў Беларусі» сябры арганізацыйнага камітэту А. Сярожкін, І. Вашкевіч, У. Цярохін, У. Радашкевіч і А. Савіцкі пішуць: «Сёньня, калі ідзе абуджэньне беларускага народу, адраджэньне беларускай культуры, прага народу да сваёй гісторыі, беларускія калекцыянеры не павінны стаяць убаку ад гэтых працэсаў. Нас само жыцьцё прымушае ўзяцца за адраджэньне даўніх традыцыяў калекцыяніраваньня на Беларусі. ...

«Мы заклікаем усіх сьвядомых калекцыянераў падтрымаць нашу ідэю па стварэньню Беларускага таварыства калекцыянераў і паведаміць пра сябе ў рэдакцыю. Жыве Беларусь!»

Адрас для ліставаньня гэткі:
ССС/Беларуская ССР
211030, Ворша
вул. Флёрава, д. 7, кв. 16
Сярожкіну Алесю

# КАЛЯДОЎШЧЫКІ



*У часе калядных сьвятаў у беларускіх хатах Нью-Ёрку й Нью-Джэрзы радасна сустракалі калядоўшчыкаў з рэпэртуарам беларускіх і амэрыканскіх калядак. На здымку (зьлева): Алег Латышонак, Мірак Пекарскі, Лёля Сельвясюк, Коля Бахар, Валік Сельвясюк, Галіна Бахар, Ганьдзя Матысюк, Ліда Данілюк, Ала Орса-Рамана. Калядавалі зь імі таксама Вера Запруднік, Урсуля Шульжыцкая, Коля Рамана і Віктар Тур.*

## ВЫСТАЎКА ФАТАГРАФІЯЎ



*Агульны выгляд залі, у якой адбывалася выстаўка.*

Стараньнямі сяброў Беларускага Культурнага Таварыства ў Нью-Джэрзы — Ірэны Рагалевіч-Дутко, Надзі Кудасавай, Мікалая Дутка — у Беларуска-Амэрыканскім Грамадзкім Цэнтры ў Саўт-Рывэры адбылася 3 лютага выстаўка фатаграфіяў Анатоля Кляшчука, фотажурналіста з Бацькаўшчыны. У прасторнай залі цэнтру былі разьвешаныя больш за 150 здымкаў, зробленых Кляшчуком у самых розных раёнах Беларусі: краявіды, помнікі, бытавыя сцэны, людзі працы, людзі цяжкога жыцьцёвага лёсу, сьляды вайны й Чарнобыля. Як зазначалі некаторыя гледачы, Анатоль Кляшчук, як фатограф, наймацнейшы здымкамі твараў сваіх аб'ектаў.

Сам мастак-фатограф ахвоча дзяліўся інфармацыяй пра сюжэты фатаграфіяў, пра абставіны свае прафэсійнае працы, пра творчыя задумкі. Ён быў моцна ўражаны ўвагаю да яго ягоных амэрыканскіх суродзічаў, усьцешаны ступеняй беларускасьці, якую яны захавалі пасьля гэтулькіх гадоў жыцьця на эміграцыі.

**У БІНіМе**

## ДАКЛАД АЛЕГА ЛАТЫШОНКА

Гісторык-дасьледнік працэсу станаўленьня беларускае нацыянальнае сьведамасьці Алег Латышонак, навуковы супрацоўнік кракаўскага Ягелёнскага ўнівэрсытэту, прачытаў 23 лютага ў Беларускім Інстытуце Навукі й Мастацтва ў Нью-Ёрку даклад на тэму «Беласточчына і народзіны беларускай думкі». Навуковае паседжаньне, арганізаванае адміністрацыяй Фонду імя І. Любачкі, адчыніў ад імя фонду сп. Юрка Азарка.

Сп. Латышонак, вывучаючы архіўныя матар'ялы канца XVIII-га — пачатку XIX-га стагодзьдзяў, устанавіў, што беларуская нацыянальная думка сваімі каранямі сягае значна глыбей у мінуўшчыну, чымся дасюль уважалася. Раньні пачатак гэтай думцы далі маладыя інтэлектуалы-нараджэнцы Беласточчыны: Даніловіч, Бабровскі і іншыя маладыя людзі, што вучыліся на Віленскім унівэрсытэце.

Новым укладам у распрацоўку абмяркоўванага пытаньня сталася вывучэньне маладым дасьледнікам тае часткі Беласточчыны, што трапіла была на 12-гадовы пэрыяд пад Прусію пасьля трэцяга разьдзелу Рэчыпаспалітае (1795 г.). Там беларускасьць была свабодная ад польскага ціску на яе і магла бесьперашкодна выяўляцца й разьвівацца.

## МАЛАДЫЯ НАВУКОЎЦЫ Й РОДНАЯ МОВА

Васіль Быкаў сказаў аднойчы, што беларуская мова павінна гучэць прыгожа ня толькі ў мастацкай літаратуры, але і ў фізыцы, матэматыцы, філязофіі. Важнасьць уводжаньня і распрацоўваньня роднае мовы ўва ўсіх дзялянках навукі добра разумеюць некаторыя прадстаўнікі маладога пакаленьня вучоных. Довадам гэтаму — зборнік Інстытуту тэхнічнай кібэрнэтыкі АН БССР «Теория и методы автоматизации проектирования сложных систем и автоматизации научных исследований». Хоць кніжка загалоўленая па-расейску, у ёй пяць зь пятнаццаці працаў зьмешчаныя па-беларуску.

Свае працы напісалі на роднай мове: Новікава С. І., Мятлюк К. М., Галавенчык І. У., Ганчарова С. А., Ананіч Г. І., Бураўкін А. Г..У тым-жа выдавецтве выйшла асобнай брашурай па-беларуску яшчэ адна праца Аляксея Генадзевіча Бураўкіна — «Вызначэньне абрысаў алгебраічных паверхняў».

## ІХ АШЧАСЬЛІВІЎ «ВАСІЛЁК»

Наўрад ці самі артысты ньюёркскага танцавальнага гуртка «Васілёк» ведалі, выяжджаючы на гастролі ў Беларусь, што акрамя радасьці сустрэчаў зь іхняй творчасьцю падораць двум маладым Беларусам і асабістае шчасьце.



*Шчасьлівыя маладажоны: Тацьцяна Ермаковіч і Вітаўт Мартыненка.*

Ён, рок-журналіст і пісьменьнік зь Менску Вітаўт Мартыненка, быў на кожным канцэрце «Васілька» ў беларускай сталіцы.

Яна, паэтка і выхавацелька дзіцячага садка з Гомеля Тацьцяна Ермаковіч, трапіла ў Менск толькі на другі канцэрт амэрыканскіх Беларусаў.

І яны сустрэліся, два самотныя беларускія сэрцы, якім цяжка было знайсьці адно аднаго ў зрусыфікаванай Беларусі.

Потым разам з «Васільком» трапілі на Купальле ў Вязынку, потым... яны ўжо не разьвіталіся (хіба толькі на кароткі час), пераадольваючы адлегласьць паміж Менскам і Гомелем.

19 студзеня 1991 году ў Менску адбылося ўжо іхнае вясельле, а 20-га ў менскім Катэдральным саборы быў праведзены праваслаўны абрад вянчаньня.

І назаўсёды талісманам іхняга каханьня застанецца цудоўны беларускі «Васілёк» з Амэрыкі.

**Уладзімер Панада**

**ПАДЗЯКА**

З удзячнасьцяй адзначаем, што газэтныя выразкі і іншыя прэсавыя матар'ялы, якія ўзбагацілі зьмест «Беларуса», нам прыслалі сп. сп.: др. Б. Кіт, М. Швэдзюк, Я. Міхалюк, Ю. Станкевіч, Я. А., др. В. Рамук, В. Станкевіч, др. У. Трэмбіцкі, сп-ня В. Рамук, Л. Стагановіч, С. Карніловіч, др. У. Бакуновіч, А. Маркевіч, М. Раецкі, др. В. Сянькевіч, сп-ня В. Махнач, А. Лашук.

## НА СЛУЖБЕ БОГУ Й ЛЮДЗЯМ



*Архімандрыт а. Карп Стар.*

Дваццаць адзін год ужо дастойны архімандрыт а. Карп Стар дае духовую апеку вернікам БАПЦ у горадзе Нью-Ёрку й ягоных ваколіцах. Апрача сваіх абавязкаў настаяцеля Сьвятатроіцкае царквы БАПЦ у Дораты ў штаце Нью-Джэрзы, а. Карп самаахвярна выконвае абавязкі духоўніка пры розных патрэбах беларускіх сем'яў, расьселеных у штатах Нью-Ёрк і Нью-Джэрзы. Нядаўна Беларусы Лёнг-Айленду гасьцінна сустракалі ў сваіх хатах а. Карпа, які іх наведаў з крашчэнскай вадою.

За сумленна выконваныя абавязкі душпастыра Царква ўзнагародзіла а. Карпа санам архімандрыта. Урачыстасьць ўзнагароджаньня адбылося ў часе 18-й сустрэчы Беларусаў Паўночнай Амэрыкі ў гор. Таронта ў Канадзе 1988 годзе.

## ДУБЯГА СЬЦЯПАН АРХІТЭКТАР



Сын спадарства Віктара й Алы Дубягаў Сьцяпан скончыў у сьнежні летась Клемсанскі ўнівэрсытэт у штаце Паўдзённая Караліна са ступеняй бакалаўра ў архітэктуры. Сьцяпан Дубяга мае намер здабываць далейшую асьвету, спэцыялізуючыся ў архітэктуры.

Ягоныя бацькі абое паходзяць зь Вялейшчыны, яны захавалі моцную прывязанасьць да беларускіх традыцыяў, праваслаўнай веры. Віктар і Ала Дубягі — актыўныя прыхаджане парафіі Жыровіцкае Маці Божае у Гайленд-Парку, Н.-Дж. Сваю духовую спадчыну яны перадалі й сыну. Ад 5-гадовага веку Сьцяпан прыслужваў у царкве, даслужыўшыся да званьня паддыякана. Ён і надалей трымае цесную лучнасьць з прыходам, бярэ ўдзел у грамадзкім жыцьці.

Мы віншуем Сьцяпана Дубягу з заканчэньнем важнага этапу ў здабываньні веды ды зычым яму і ягоным бацьком усякае памыснасьці ў жыцьці і ў грамадзкай працы.

**Рэдакцыя «Беларуса»**

Аўген Магаліф

# ВЕЛІЧНАЯ І ПАТРЭБНАЯ СПРАВА

Амаль тры месяцы я гасьцюю ў Амэрыцы. Дзякуючы розным добрым беларускім людзям, мне пашанцавала ўбачыць шмат цікавага. Адной з падзей, якая застанецца ў маёй памяці, для мяне стаўся Славянскі фэстываль. Ён адбыўся 19 студзеня ў Лінкольнскім цэнтры Нью-Ёрку.

Калі я паглядзеў праграму фэстывалю, то ўбачыў, што славянскае мастацтва прадстаўлена ў ім у асноўным танцавальнымі калектывамі Амэрыкі й Канады, а таксама адным аркестрам і двума сьпевакамі-салістамі. Не магу сказаць, што я вялікі знаўца танцавальнага жанру, але, як прафэсійны музыкант, я ўдзельнічаў у фэстывалях народнай творчасьці СССР, бачыў выступленьні самадзейных артыстаў розных народаў, і мне было вельмі цікава ўбачыць падобнае ў Амэрыцы.

Прыгожая вялікая заля была поўная прыхільнікаў выступаючых артыстаў. І хоць, прыхільнікаў адных было шмат, а іншых зусім мала, — усе яны з аднолькавым энтузіязмам глядзелі, слухалі і апладзіравалі ўсім артыстам. Цікава і ярка выступалі амаль усе танцавальныя калектывы і сьпевакі. Але я затрымаюся на выступленьнях прадстаўнікоў украінскага, расейскага і беларускага народаў, таму што іх творчасьць мне бліжэй, паколькі я прыехаў зь Беларусі.

Больш за ўсіх, здаецца, у залі было прыхільнікаў украінскага мастацтва. Ды й украінскі танцавальны калектыў «Сізакрылыя» відавочна адрозьніваўся ад іншых колькасьцю ўдзельнікаў і нейкай большай упэўненасьцю і размахам. Асабліва працяглымі воплескамі праводзілі гледачы яркі, удалы, добра пастаўлены танец «Гапак». Танец гэты, можна сказаць, мужчынскі, таму што ў ім мужчыны заўсёды дэманструюць сваё індывідуальнае майстэрства: адзін выдатна танцуе ўпрысядкі, другі высока скача, трэці спрытна валодае славутай запарожскай шабляй. У гэтым танцы «Сізакрылыя» паказалі настолькі высокае майстэрства, што ў мяне стварылася ўражаньне: гэты танец — фінальны. Аднак рэжысэр фэстывалю вырашыў скончыць канцэрт выступленьнем югаслаўскага ансамблю. Выдатнае харавое сьпяваньне, а потым і цікавы танец Югаславаў усё-ж ня здолелі пасьля «Гапака» ўкраінцаў узмацніць захапленьне публікі. І калі-б да танца Югаславаў не падключыліся ўсе ўдзельнікі фэстывалю, ён ніяк ня мог-бы быць завяршэньнем канцэрту.

Добрыя ўражаньні пакінулі практычна ўсе танцавальныя калектывы: адны мелі лепшыя касьцюмы і большую колькасьць удзельнікаў, затое другія — яркіх танцораў-салістаў і цікавую пастаноўку; адны мелі маленькі аркестрык ці добрую аркестравую фанаграму, затое другія адначасова сьпявалі й танцавалі. Як музыкант, я, зразумела, зьвярнуў увагу на якасьць гучаньня большасьці фанаграм. На жаль, яны былі прыблізна такімі-ж, як у заняпалым вясковым Доме культуры на маёй радзіме. Акрамя таго, некаторыя зь іх запісаны з дапамогай электронных музычных інструмэнтаў, ды настолькі «нясмачна», бедна, што мне незразумела: калектыў мае грошы на добрыя касьцюмы, а на якасную фанаграму грошай няма?

Літаральна «забіў» мяне расейскі балалаечны аркестр «Тройка». Я паважаю й ведаю расейскую музычную культуру, ведаю, як цяжка зьберагчы ў Амэрыцы свае традыцыі славянскім народам. Пры ўсіх маіх першапачатковых добрых адносінах да «Тройкі», пасьля іх выступленьня я не магу сказаць аб ім ніводнага добрага слова: шурпатыя аранжыроўкі, жудасна нязладжаная ігра, адсутнасьць ансамблевага пачуцьця, невалоданьне элемэнтарнымі музычнымі ведамі — ўсё гэта сапсавала мой настрой. Вядомая ўсім песьня «Карабейнікі» была сапсавана супольнымі «намаганьнямі» музыкантаў і жанчыны-кіраўніка аркестра (дырыжорам я яе назваць не магу). Мала таго, што музыканты не маглі здолець свае партыі, а кіраўнік ня ў такт грукала ў бубен, дык яна яшчэ раптам засьпявала «карабейнікаў» няпрыемным «белым» голасам. Тантальнасьць для яе была вельмі высокая, словы яна ня вывучыла дый палову песьні прасьпявала міма мікрафону. Я падумаў сабе, што, напэўна, гэты калектыў створаны нядаўна і гэта так званы «першы блін». Але потым, калі я прачытаў, што аркестр «Тройка» існуе 25 гадоў, я зразумеў, што расейскае мастацтва ў Амэрыцы знаходзіцца на сапраўднай зьнікненьня. Мяркую і нават ведаю, што ў складзе аркестра — энтузіясты-аматары, што няма часу зьбірацца на рэпэтыцыі, цяжка авалодваць музычнай граматай у сталым веку і г.д. Але нельга займацца прафанацыяй мастацтва і на такім узроўні прадстаўляць культуру цэлага народу, нават калі больш няма каму яе прадстаўляць.

Пасьля расейскага аркестра прыйшоў час прадстаўніка беларускага народу. На сцэне зьявіўся высокі, малады, прыгожы, таленавіты сьпявак Данчык, якога любяць Беларусы і Украінцы па абодвы бакі акіяну. Данчык — кумір маёй сям'і. Калі маю шасьцігадовую дочку Кацюшу запыталі, чаму яна жадае пайсьці ў спэцыяльную беларускую клясу, яна адказала: «Каб размаўляць з Данчыкам!»

Бог даў Данчыку ня толькі прыгожасьць і розум, але й цудоўны незвычайнага тэмбру лірычны тэнар. Ён сьпяваў зь вялікім густам лірычныя песьні, якія як нельга лепей раскрылі слухачом характар беларускага народу: «Беларусачку», «Аксамітны вечар» і «Ручнікі». Выступленьне Данчыка, на мой погляд, было аддушынай, той прыемнай ціхай гаванькю, куды хацелася схавацца пасьля выступленьня аркестра «Тройка». Інтэлігентнасьць, уменьне перадаць найтанчэйшыя адценьні лірыкі, мяккага гумару, незласьлівага жарту ў песьнях, сапраўдны прафэсіяналізм выканаўца — ўсё гэта ўдала адрозьнівала выступленьне адзінага прадстаўніка беларускага мастацтва ад іншых: як кажацца, узялі ня колькасьцю, а якасьцю.

Мне пашанцавала трапіць на сапраўднае сьвята мастацтва, дзе сваё майстэрства паказвалі прадстаўнікі самадзейнай творчасьці самых розных славянскіх народаў: Чэхаў і Славакаў, Палякаў і Югаславаў, Баўгараў, Сербаў, Расейцаў, Украінцаў, Беларусаў. Штогадовы Славянскі фэстываль у Нью-Ёрку — цудоўная традыцыя. Адарваныя ў моц розных абставінаў ад роднай зямлі, людзі шануюць, памятаюць і імкнуцца зьберагчы мастацтва сваіх народаў.

І справа гэтая — велічная і патрэбная.

Саўт-Рывэр, Студзень 1991 г.

**ПАДШІШЭЦЕСЯ НА ГАЗЭТУ «БЕЛАРУС» ДЛЯ СУРОДЗІЧА НА БАЦЬКАЎШЧЫНЕ. ВЫПІСВАЙЦЕ З БАЦЬКАЎШЧЫНЫ ДЭМАКРАТЫЧНУЮ ПРЭСУ.**

## УШАНАВАНЬНЕ А. МАРКЕВІЧА

Шматгадовы супрацоўнік газэты «Беларус» сп. Антон Маркевіч — вэтэран аўтамабільнае прамысловасьці Канады. Пасьля больш як трыццаці гадоў працы на заводзе Джэнэрал Моторс у Ашаве, сп. Маркевіч быў ушанаваны аўтакампаніяй разам зь іншымі сваймі сябрамі-спэцыялістамі. Адбыўся абед у іхны гонар. Пра Антона Маркевіча двойчы пісаў заводзкі бюлетэнь «Аўто Інфо» (17.X. і 8.X.I.90).

Сп. Антону Маркевічу споўнілася 10 кастрычніка летась 65 год. Мы шчыра вітаем яго з 66-м годам жыцьця, зычым добрага здароўя і разьлічваем на далейшае плённае супрацоўніцтва ў нашай супольнай выдавецкай справе.

**Рэдакцыя «Беларуса»**

## СУСТРЭЧА БЕЛАРУСАЎ

*(Заканчэньне з 3-й б.)*

Адбыўся супольны абед, добра падрыхтаваны жанчынамі (за што ім шчыра дзякаваў старшыня М. Калесьніковіч), пасьля якога пачаліся танцы пад цудоўную музыку «Інка». Паміж танцамі гучэлі беларускія песьні. Гулянка прайшла ў вельмі вясёлым настроі.

На другі дзень адбыўся ў Банайтэнскім парку пікнік у маляўнічым навакольлі пры цудоўным надвор'і. За цэлы дзень і нагаварыліся, і насьпяваліся, і нажартаваліся пры чарцы й добрай закусцы.

Трэйці дзень Сустрэчы быў днём працы й арганізацыйных справаў. Дэлегаты й сябры фэдэральнай управы прыбылі ў залю беларускай царквы і там правялі дыскусіі ды выбары новай Фэдэральнай Рады, у склад якое ўвайшлі: Аўген Груша (Мэльбурн) — старшыня, Янка Аршанскі (Адэляйда), М. Ціхан (Сыднэй), Міхась Раецкі малодшы (Пэрт) — намесьнікі старшыні, П. Гуз (Мэльбурн) — сакратар, В. Сідлярэвіч (Мэльбурн) — скарбнік.

На паседжаньні была прынятая рэзалюцыя, копіі якой будуць высланыя ў Канбэру і ў Менск урадам Аўстраліі й Беларусі.

Папаўдні ў тэй-жа залі адбыўся разьвітальны абед, які трываў да 8-й вечара пад песьні й танцы.

Сп. А. Груша паінфармаваў, што за грошы, сабраныя на дапамогу ахвярам Чарнобыля, было выслана ў Беларусь на чатыры тысячы даляраў мэдыкамэнтаў і аднаразовых шпрыцоў, а рэшта грошай ляжыць у банку.

На разьвітаньне сп. Мікалай Калесьніковіч яшчэ раз падзякаваў усім за прыезд і добрую працу ды пажадаў дарагім гасьцям шчасьлівае дарогі дамоў.

...

Парафія БАПЦ у Адэляйдзе наладзіла ў залі польскага дому імя Капэрніка 13 студзеня навагодні баль, на які прыбыло каля 300 асобаў і вельмі добра гулялі ад 8-й вечара да 1-й ночы.

**У. Акавіты**

### У ФОНД РАДЫЯПРАГРАМЫ

У фонд беларускае радыяпраграмы ў гор. Пэрце ў Зах. Аўстраліі склалі ахвяры А. і О. Кукель — 50 дал. і М. Нікан — 20 дал., за што ім выказваецца шчырая падзяка.

**М. Раецкі**

### Каталёг беларусікі

Зь Беларускага Інстытуту Навукі і Мастацтва можна дастаць задарма каталёг выдадзеных на Захадзе беларускіх публікацыяў.

*З жыцьця ў Чыкага*

## КАЛЯДНАЯ ПРАГРАМА

Калядны фэстываль у Музэі Навукі й Індустрыі пачаўся 23 лістапада й працягваў да 2 студзеня. У ім узялі ўдзел 42 этнічныя групы, выставіўшы свае ялінкі, а некаторыя ладзілі сцэнічныя паказы.



*Беларуская ялінка ў Музэі Навукі і Індустрыі.*

Нашая ялінка была прыбраная 16 лістапада, папоўненая новымі арнамэнтамі з саломкі ў непаўторных колерах работы сп-ні Людовікі Беленіс. Побач ялінкі красавалася прыгажуня лялька зь невялікай картай Беларусі ў руцэ. Паводля водгукаў публікі, ялінка ўдала прадстаўляла Беларусь, аб чым нагадала і кіраўнічка фэстывалю. Шчырая падзяка за ўбор ялінкі належыцца Людовіцы, Антосю, Гені й Лявону Беленісам, Валі Мазуры й Міхасю Махначу.

У нядзелю 23 сьнежня адбылася беларуская калядная праграма, кіраўнічкай якой была сп-ня Вера Рамук. Заміж сцэнічнай пастаноўкі «Каляды», як меркавалася папярэдне, былі прадстаўленыя нумары беларускай народнай музыкі, слайды, як ілюстрацыя да паясьненьня сп-няй В. Рамук беларускай культурнай спадчыны, калядных звычаяў, ды калядкі, удала выкананыя на інструмэнтах Рэбэкай і Джонам Пэйлі ды а. Язэпам Сыру.

Публіка ўзнагародзіла выканаўцаў бурнымі воплескамі.

**Др. Вітаут Рамук**

*З жыцьця ў Нью-Джэрзы*

## ЗАПУСНЫЯ БЛІНЫ

Стараньнямі парафіяльнае рады царквы Жыровіцкае Божае Маці БАПЦ у Гайленд-Парку (старшыня царкоўнай рады — сп. Алег Дубяга) 17 лютага пасьля багаслужбы адбыўся супольны абед — традыцыйныя бліны. Благаславіўшы ежу, а. Васіль пажадаў усім прыемна правесьці час, і час сапраўды прайшоў прыемна. Шумна й весела адбылося розыгрыш лятарэі, праведзены сп. Віктарам Дубягам (білеты прадавалі дачушкі а. Васіля Таіса й Ліза).

Такая-ж традыцыйная бяседа адбылася ў сыботу й нядзелю 16-17 лютага і ў царкве Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры, дзе сястрыцтва (старшыня — сп-ня Ірэна Дутко) частавала пад кіраўніцтвам сп-ні Валі Камянковай прыхаджанаў і гасьцей смачнымі блінамі зь верашчакай. Прадукты на гэтае сьвяткаваньне шчодра ахвяраваў прыхаджанін парафіі сп. Мікалай Навіцкі.

Антон Гаеўскі

# БЕЛАРУСКІ КАЛЯНДАР 1991

Выдавецтва «Беларуская Савецкая Энцыклапэдыя» аднавіла традыцыю выдаваньня календароў «для ўсіх аб усім», выдала на сёлетні год прыгожа аформлены й багата ілюстраваны, на добрай паперы і ў добрай вокладцы настольны каляндар (176 бб., 20 тыс. экз.). Каляндар, складзены В. С. Бугаёвам, выйшаў пад рэдакцыяй А. Л. Петрашкевіча. У працы над кнігай узяло ўдзел больш за 20 асобаў. У кнізе зьмешчаныя звесткі з галіны літаратуры, мастацтва, гісторыі, культуры, этнаграфіі, фальклёру, астраноміі, мэтэаралёгіі. У чорна-белых і каляровых ілюстрацыях — пэйзажы, партрэты, помнікі архітэктуры, жывапіс, іканапіс. Выданьне гэтае прыемна ўзяць у рукі і палістаць яго, прыглядзецца бліжэй, учытацца. І тады пачынаеш заўважаць у ім сьляды традыцыйнага імпэрскага паказваньня (і непаказваньня) гісторыі Беларусі. У парадку дапаўненьня пералічым найбольш характэрныя мамэнты, калі мінуўшчына пераліцоўваецца на стары царска-бальшавіцкі шаблён.

Гэтак, у календары прыгадваецца й цытуецца ананімны твор XIX ст. «Гутарка старога дзеда». Аднак складальнікі календара чамусьці не маглі напісаць, што гэты твор быў скіраваны супроць Расейскае імпэрыі ды што ў ім ставілася пытаньне: ці гэта Божая воля, каб Беларусы заставаліся пад уладаю Расеі назаўсёды?

У артыкуле пра Івана Мележа зазначаецца, што ён ня быў першаадкрывальнікам тэмы калектывізацыі, але, як і Міхаіл Шолахаў, ён зазірнуў у глыбіні народнай трагедыі. Гэта мне прыгадала падручнік беларускае літаратуры для восьмае клясы, у якім было напісана, што Цётка, як Максім Горкі, пісала пра нешта там, але ў яе выходзіла куды горш. Ну, але тады быў сталінізм. А цяпер гэткіх бязглуздых параўнанняў не павінна быць. Шолахаў усхваляў калектывізацыю, а Мележ перш за ўсё падкрэсьліваў, што калектывізацыя праводзілася гвалтоўнымі мэтадамі, што АДПУ арыштоўвала невінаватых людзей і расстрэльвала сяброў некамуністычных партыяў ды што партакратыя запалохвала сялянаў Салаўкамі.

Каляндар не абмінае ўгодкаў нараджэньня Кляўд'юша Дуж-Душэўскага, але нават ня згадвае пра ягоную дзейнасьць у беларускіх палітычных партыях, ня піша, што ён быў старшынём Цэнтральнае Рады Віленшчыны і Горадзеншчыны, а потым дзеячом БНР. Няма ані слова пра ягоную дзейнасьць у Коўне ды пра тое што ён там быў арыштаваны Саветамі ў 1944 годзе.

Пішучы пра Язэпа Лагіновіча, каляндар утойвае, што ён удзельнічаў у Слуцкім паўстаньні ды ў трыццатых гадох быў арыштаваны і памёр у гулагу.

У зацемцы пра Лівонскую вайну Іван Грозны паказаны ў якасьці будаўніка, які будаваў на Беларусі замкі ды цэрквы. Каляндар утойвае, што маскоўскі цар спаліў Полацк, у якім з гарматаў лупіў у сьцены Спаса-еўфрасіньнеўскага манастыра, спустошыў ваколіцы Віцебску, Дуброўны, Воршы і Шклова ды нішчыў беларускія назовы: ён перайменаваў горад Белы ў Багародзіцын, Себеж у Івангарад, Дзьвінск у Барысаглебск, полацкі Ніжні замак у Стралецкі. У Полацку Іван Грозны зьнішчыў палову жыхароў, пры гэтым Гэбрэяў патапіў уласнаручна. Пусьціў ён таксама пад лёд Дзьвіны сотні абаронцаў гораду. З Полаччыны цар болып за 11 тысячаў беларускіх сялянаў па зімовых дарогах пагнаў на ўсход. Шмат фурманак з золатам, срэбрам і дарагімі рэчамі выслаў у Маскву.

У календары пішацца пра ваенны паход Пятра I на Беларусь, але не прыгадваецца, як войска расейскага цара паліла Віцебск, Себеж, нішчыла Менск, Друю і Полацк, у якім Пётр I уласнаручна пасёк шабляю сьвятароў і пры дапамозе пораху зруйнаваў Сафійскую царкву.

У зацемцы пра Куцеінскі манастыр утойваецца, што славутая Куцеінская друкарня была вывезеная ў Расею.

Каляндар палічыў патрэбным напісаць, што вершы Юлія Таўбіна «адметныя сувязьзю з традыцыямі Пушкіна», але нават ня згадвае, што Таўбін быў закатаваны ў савецкім гулагу.

У кароткай нататцы пра кампазытары Ўладзімера Тэраўскага ня згадваецца, што ён загінуў у савецкіх лягерох.

Каляндар замоўчвае перасьледы з боку савецкае ўлады выдатнага беларускага генэтыка Антона Жэбрака.

Каляндар паведамляе, што паэт Сьцяпан Ліхадзіеўскі «працаваў» у Казахстане і Ташкеньце. Што гэта значыць? Ці-ж цэнзура ўсё яшчэ не дазваляе пісаць, што ён там пакутаваў у савецкім нялюдзкім выгнаньні?

З нататкі пра пісьменьніка Якуба Міска даведваемся, што ён колькі разоў арыштоўваўся польскімі ўладамі, але няма ў гэтым матар'яле ані слова пра тое, што ў 1939 годзе Саветы арыштавалі яго разам з бацькам і братамі.

Каляндар паведамляе, што беларускі пасол польскага сойму Павал Валошын арыштоўваўся польскімі ўладамі, але замоўчвае, што ён быў закатаваны у Савецкім Саюзе.

У календары ўвогуле ня прыгадваюцца гэткія выдатныя Беларусы, у бальшыні ахвяры камуністычнага тэрору, стагодзьдзе ад нараджэння якіх прыпадае на гэты год, як Яўген Усьпенскі, Іван Цьвікевіч, Антон Баліцкі, Фабіян Ярэміч, Язэп Варонка, Антон Васілеўскі, Язэп Воўк-Левановіч і Янка Станкевіч.

Каляндар цьвердзіць, што крыж Еўфрасіньні быў вывезены нямецкімі акупантамі. Але яшчэ нядаўна ў савецкім друку выказваліся меркаваньні, што крыж маглі вывезьці ў Расею бальшавікі, калі яны у 1941 годзе ўцякалі ад Немцаў.

У беларускім календары павінны таксама быць гэткія беларускія рэлігійныя сьвяты, як дзень жыровіцкае іконы Маці Божае і дзень Еўфрасіньні Полацкае.

## «ГАЛІВУД» У МЕНСКУ

Амэрыканская фірма «Галівуд-СССР» падпісала ў Менску 13 лютага пагадненьне аб супрацоўніцтве зь кінастудыяй «Беларусьфільм». Кантракт падпісаны на пяцігадовы тэрмін. «Беларусьфільм» будзе даваць амэрыканскім кінавытворцам розныя прафэсійныя паслугі ў здымканьні на тэрыторыі СССР фільмаў, зробленых кіх фільмаў, тэлевізійных праграмаў, відэаістужак. Узамен фірма «Галівуд-СССР» будзе забясьпечваць кінастудыю «Беларусьфільм» кінаплёнкай маркі Кодак (дзесяць тысячаў мэтраў за фільм) і будзе мець права пракату на тэрыторыі СССР фільмаў зробленых фірмай «Галівуд-СССР». «Галівуд-СССР» будзе таксама памагаць беларускім кінэматаграфістам іншымі матар'яламі й спосабамі ў вытворчасьці фільмаў.

Кантракт падпісалі ад імя «Беларусьфільму» дырэктар студыі Ўладзімер Гарбачоў, а ад імя «Галівуду-СССР» — прэзыдэнт карпарацыі Лявон Зільдовіч.

Уладзімір Пучынскі

# ТАК ШМАТ СКАЗАЦЬ...

## Вечарына 60-х угодкаў Уладзімера Караткевіча

Пасьмяротнае прызнаньне і ўсеагульнае шанаваньне, як лекі (каму!?) на зраненую пры жыцьці душу й цела. Колішнія ворагі запісваліся й запісваюцца ў найлепшыя сябры. Вядома-ж! Бо так ужо ўладжаны чалавек, што благое ён будзе ўзгадваць даўжэй, чым добрае. А значыць, даўжэй будзе ў памяці сядзець вобраз заклятага ворага. А той ужо пасьля сьмерці пачынае пісаць мэмуары «Які ён быў». Словы, словы. Так патрэбныя жывому для падтрымкі ў нейкі жыцьцёвы момант і гэткія крыху найграныя пасьля сьмерці, калі кожны хоча далучыцца да імя, улезьці ў гісторыю.

Пра Ўладзімера Караткевіча пакуль не пачалі расьпісвацца ягоныя колішнія ворагі (а зрэшты, хто цяпер скажа пра тое дакладна?). Але гэтак крыўда, што цёплыя словы пра Чалавека й Пісьменьніка сказалі праз колькі гадоў пасьля яго сьмерці, да чарговага Яго юбілею.

29 лістапада ў менскім Доме літаратараў, пасьля шматдзённага шэсьця па Воршы й Віцебску, сьвята нараджэньня Караткевіча прыйшло ў сталіцу, адбылася вечарына, прысьвечаная 60-ым угодкам ад дня нараджэньня.

На задніку сцэны — вялікі белачырвона-белы сьцяг, на якім партрэт Уладзімера Сымонавіча, а ўнізе кветкі. Адзін за адным зьмяняюцца выступоўцы. Пісьменьнікі, сястра пісьменьніка, сябра з Польшчы й Украіны. Янка Брыль, Адам Мальдзіс, Рыгор Барадулін зь Менску, Зьдзіслаў Нядзеля з Кракава, Натальля Сымонаўна Кучкоўская — сястра Караткевіча. На беларускай, расейскай, польскай ды ўкраінскай мовах выступоўцы распавялі пра юбіляра, пра тое, што пакінуў для кожнага ў сэрцы ён, чыталі вершы ў перакладзе на польскую мову.

Пасьля ўрачыстае часткі была невялікая канцэртная праграма. Была паказаная пастаноўка паводле гістарычных твораў Ул. Караткевіча, гучалі вершы й паэмы ў выкананьні чытальнікаў, сьпявaліся народныя песьні. Выступіў сьпявак з далёкага ад Менску Саратава зь песьнямі да «Ладзьдзі роспачы». Сапраўды ўжо — сапраўднае мастацтва ня мае межаў. Тым болей — такога вялікага Творцы, Мастака.

Пачалася й скончылася вечарына гуказапісам старадаўняе беларускае песьні ў выкананьні Ул. Караткевіча. А на экране — фотаздымкі... празаіка, паэта, эсэіста, драматурга, мастака, сьпевака... Гэтак шмат здольнасьцяў надзяліў Бог гэтаму чалавеку, але ня ўсё даў ажыцьцявіць. Дзякаваць-жа Богу — шмат цяпер людзей рознага веку, якія імкнуцца несьці штандар Беларускага Адраджэньня. Менск

## ЗАХАДЫ АБ ПРЫЗНАНЬНІ ЭМІГРАЦЫЙНЫХ КАМПАЗЫТАРАЎ

Брытанскі музыколяг і беларусіст Гай Пікарда, пабачыўшы, што выдадзеная летась у выдавецтве «Беларусь» кніжка Н. Хвісюка «Белорусская хоровая литература» поўнасьцяй замоўчвае творчую спадчыну эміграцыйных кампазытараў-хормайстраў Міколы Куліковіча-Шчаглова і Міколы Равенскага, напісаў вострую скаргу рэдактару выдавецтва «Беларусь» (з копіямі ў міністэрствы культуры і акадэміі навук усіх эўрапейскіх дзяржаваў, ЗША, Канады, Аўстраліі й Паўдзённай Афрыкі). Сп. Пікарда напісаў таксама Міністру культуры БССР, які, быўшы ў Лёндане, даў зразумець, што адмоўнае стаўленьне да Куліковіча-Шчаглова й Равенскага будзе перагледжана.

Скарга, відаць, падзеіла. Ёсьць прыкметы таго, што хор АН БССР, які, дзякуючы стараньням Г. Пікарды, наведае Лёндан у травені сёлета ў парадку культурнага абмену, будзе мець у сваім рэпэртуары творы Міколы Куліковіча, а таксама некаторыя беларускія кантычкі.

### «ЗВАЖАЙ» № 1/91

У сакавіковым нумары:

Дзень ганьбы (да 70-х угодкаў Рыжскага трактату); В. Сянькевіч — У 70-я ўгодкі савецка-летувіскага мірнага дагавору; Як яны памагаюць ахвярам Чарнобыля; К. Акула — Нафашысьцілі а. Надсону; К. Акула — Як сталіністы праводзяць беларусізацыю ў Менску; В. Мельяновіч — Амэрыканскі ўклад у вайну; Семдзясятыя ўгодкі Слуцкага змаганьня; інш. матар'ялы, ілюстрацыі.

## «ПЕСЬНЯРЫ» Ў ЧЫКАГА

27 студзеня ансамбль «Песьняры» ў складзе чатырох сьпевакоў (Мулявін, Місевіч, Піня й Дайнэка), трэці раз ужо гастралюючы па Амэрыцы, упяршыню выступіў у Чыкага. Пры ўваходзе ў школьны будынак, дзе адбываўся канцэрт, прадаваліся кашулі з напісам «Песняры» сьпераду, а ззаду, парасейску, «Чернобыль — наша боль» і картай Беларусі з назовамі гарадоў. Шкада, што напісы гарадоў ня былі напісаныя па-беларуску лацінскім шрыфтам, які магла-б чытаць англамоўная публіка. Прыбытак з продажу кашуляў, паводля арганізатараў, пойдзе на дапамогу беларускім дзецям-ахвярам Чарнобыля.

Праграму вяла Сьвятлана, жонка Мулявіна. Прывітаўшы публіку па-беларуску, праграму далей вяла па-расейску з увагі на тое, што бальшыня з 350 слухачоў былі з новай эміграцыі, людзі расейскамоўныя. На канцэрце было каля дзесятка Беларусаў.

Праграму сваю ансамбль пачаў песьняй «Мой родны кут» пад магутны акампанімэнт з фанаграмы. Сьпевакі былі апранутыя ў гістарычныя магнацкія касьцюмы, што надавала ім павагі й маестатычнасьці. Песьні свае выканаўцы суправаджалі рознымі жэстамі, што ажыўляла сцэну. Зьмест песьняў паясьняў Уладыслаў Місевіч. Былі выкананыя: «Ой, рана на Йвана», «Каханьне», «Вэраніка», «Каляда», «Ой, ты дуб, дубе».

Пасьля «Песьняроў» выступіў кампазытар-сьпявак-акампаніятар Аркадзь Харлоў з Масквы і прасьпяваў колькі расейскіх песьняў дыскатэчнага жанру. Колькі расейскіх песьняў выканалі таксама «Песьняры».

Сьвятлана Мулявіна выступіла з кароткім словам пра чарнобыльскую аварыю, у выніку якой 2,6 мілiёна людзей, у тым ліку 800.000 дзяцей, маюць пашкоджанае здароўе, і ім патрэбна сьпешная дапамога.

Праграму канцэрту закончылі «Песьняры» песьняй «Касіў Ясь канюшыну». Удзячная публіка ўзнагародзіла ансамбль бурнымі воплескамі.

Пасьля канцэрту сп-ня Вера Рамук уручыла букет ружаў Уладзімеру Мулявіну, падзякавала яму і ансамблю за папулярызацыю беларускай песьні й музыкі, а др. Вітаўт Рамук прывітаў Мулявіна зь 50-мі ўгодкамі нарадзінаў, якія адзначаныя ў беларускім настольным календары на 1991 год, пажадаў яму плённай працы на ніве музычнага мастацтва.

## СЬВ.†ПАМ. ЖЭНЯ ЦЕРПІЦКАЯ



Нарадзілася 5 жніўня 1928 г. ў вёсцы Сялец на Бабруйшчыне ў сям'і Ярмалінскіх.

У 1944 г. з бацькамі і братамі выехала ў Нямеччыну. У 1947 г. ўся сям'я пераехала ў Англію на працу. У 1950 г. выйшла замуж і ў канцы 1951 г. выехала з мужам у Амэрыку.

Пасяліліся ў гор. Саўт-Рывэры, штат Нью-Джэрзы, дзе ў той час ужо была абасноване адна зь першых беларускіх калёніяў. Адразу з мужам уключыліся актыўна ў царкоўнае і грамадзкае жыцьцё. Любячы сьпяваць ад маленства, брала ўдзел у хорах.

Адораная надзвычайнай памяцьцю і добрай дыкцыяй, любіла дэклямаваць розныя паэмы і вершы падчас нацыянальных сьвяткаваньняў. Ведамая была таксама сваёй гасьцiннасьцю. Любіла вельмі падарожнічаць і зьведваць розныя краіны сьвету.

Незадоўга перад сьмерцю наведала родную зямельку — Беларусь і з сумам глядзела на пустыя палеткі, дзе некалі стаяла родная хата.

Пакінула ў смутку мужа Віталія і дачку Леанілу.

Многалюдныя паховіны адбыліся ў беларускай праваслаўнай царкве Сьв. Еўфрасіньні Полацкай у Саўт-Рывэры. Цела спачыла на саўтрывэрскім царкоўным магільніку.

Няхай ёй будзе пухам зямелька Амэрыкі, якая гасьцінна прыняла яе ў цяжкім паваенным часе.

**Віталі**

## СЬВ.†ПАМ. ЭДВАРД ДАНІЛОВІЧ

нарадзіўся 13 ліпеня 1945 г., адыйшоў 9 лютага 1891 г.
ў вечнае жыцьцё, аб чым паведамляюць горам прыбітыя бацькі.
Абрад пахаваньня выканаў сьвятар БАПЦ а. Васіль.
Пахаваны нябожчык на Беларускім могільніку ў Іст-Брансьвіку.
Няхай яму будзе лёгкай амэрыканская зямелька.

**Б. і А. Даніловічы**



## ПАДЗЯКА

У сувязі са сьмерцяй нашага дарагога сына, сьв. пам. Эдварда Даніловіча, выказваем шчырую падзяку а. Васілю за абрад пахаваньня, сп. А. Семянчуку за прыгатаваны хаўтурны абед, адзьдзелу БАЗА ў Нью-Джэрзы і асобам, якія прыслалі вянкі ці склалі асабіста або пісьмова спачуваньні.

Сабраныя грошы ў суме 475 дал. перадаём у фонд ахвярам Чарнобыля.

Яшчэ раз ад шчырага сэрца дзякуем тым, хто ў так цяжкую для нас часіну прыйшоў нам з дапамогай.

**Бацькі**

## СЬВ.†ПАМ. КАСТУСЬ ШЫБІЦКІ

нарадзіўся ў Селавічах каля Нясьвіжа 27.IX.1916 г.,
памёр у Манчэстэры ў Англіі 22.XII.1990 г.

Быў добрым вернікам Беларускай
Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы
і сябрам Згуртаваньня Беларусаў
у Вялікабрытаніі.

Вечная памяць

**Сябра М. Я.**

## СЬВ.†ПАМ. АННА АКАНОВІЧ-НЕКРАШЭВІЧ



нарадзілася ў Парычах 16 верасьня 1902 г.
памерла 27 студзеня 1991 г. ў Слайдэл,
штат Люізіяна, ЗША, дзе й пахаваная.
Пра гэта з глыбокім жалем паведамляюць
і спачуваньне сыну Аліку Акановічу выказваюць
ягоныя сябры й сяброўкі, былыя вучні

**Гімназіі імя Я. Купалы ў
ў Міхэльсдорфе ў Зах. Нямеччыне**

## СЬВ. ПАМ. К. ШЫБІЦКІ



Пра Кастуся Шыбіцкага трэба сказаць хоць колькі словаў, успомніць ягоны жыцьцёвы шлях.

Перад вайною адбываў вайсковую службу. Калі выбухнула вайна, трапіў у савецкі палон і гэткім чынам апынуўся ў Сібіры, дзе прабыў аж да 1941 году, калі Саветы, маючы ваенныя цяжкасьці, дазволілі Палякам арганізаваць сваё войска. З гэтага і скарыстаў Кастусь — ён запісаўся ў польскую армію, як казаў, толькі патое, каб ратаваць жыцьцё.

Прайшоўшы праз Іран, Ірак ды іншыя краіны, апынуўся ў Італіі, дзе браў удзел у баёх на Монтэ-Касына. З кампаніі, да якой належаў і якая налічвала 140 чалавек, уцалела толькі 18. Крыўдаваў, што ўсе дасталі заслугі, а яму не далі. Прычына ня ведамая — можа таму не далі, што быў сьведамым Беларусам.

Па заканчэньні вайны апынуўся ў Вялікабрытаніі, і як толькі паўстала беларуская арганізацыя ЗБВБ у 1946 годзе, уступіў у яе і быў сябрам да канца жыцьця, а таксама належаў да БАПЦ ад часу, калі яе абвесьці ў 1948 годзе.

У 1986 годзе адведаў Беларусь, маючы польскі кансулярны пашпарт. У Менску затрымала яго паліцыя; дапытваліся, як атрымаў і чаму ў яго такі пашпарт. Адказаў: беларускага-ж няма. Распытваліся пра Сібір. Гаварыў зь міліцыянтамі па-беларуску. Пачалі нарэшце і яны гаварыць роднай мовай.

У часе пабыту на Беларусі, жонку Кастуся забралі ў шпіталь, дзе й памерла за колькі дзён да ягонага звароту. Дзяцей у іх ня было. Гора-бяда ным сябрам ЗБВБ, добрым параіянінам.

Паховіны адбыліся 4 студзеня, абрад пахаваньня выканаў прат. а. Янка Абабурка. Хоць дзень быў працоўны, было шмат людзей. Адслужылі малебен, паніхіду, пасьля чаго адвезьлі на манчэстэрскі могільнік Саўдзэрн, дзе ёсьць як-бы беларуская дзялянка.

Шкада, што не дачакаўся вольнай Беларусі, аб якой так марыў.

Хай яму будзе пухам ангельская зямелька.

**М. Стаўпіскі**

## УСПАМІН ПРА П. МІРАНОВІЧА

З мастаком Пётрам Міранoвічам я пазнаёміўся ў Аўстрыі, куды я прыбыў у 1944 годзе. Маючы патрэбныя беларускія дакумэнты, я пачаў адчыняць у Вене беларускія школы і дамагацца аслабаненьня ад фізычнай работы Беларусаў-інтэлектуалістаў і дарослых школьнікаў. Дырэктар ваеннай фабрыкі ў 23-й акрузе Вены, у Швадорфе, паставіўся да мяне прыхільна, адвёў для беларускай школы вялікае памешканьне, прызначыў двух Беларусаў-цесьляроў і школа запрацавала. З работы былі аслабанёныя названыя мной настаўнікі й школьнікі, а сярод іх — мастак Пётра Міранoвіч, паэт Алесь Салавей, Валя Веда, Марыя Паплаўская. Пасьля адны зь іх, у тым ліку Пётра Міранoвіч, паехалі ў ЗША, а Салавей падаўся ў Аўстралію.

**Алесь Змагар**

## НА ВЫДАВЕЦКІ ФОНД «БЕЛАРУСА»

*Прыслалі беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | | |
|---|---|---|
| Беларуска-Амэрыканскі центар у Саўт-Рывэры | ам. д. | 200 |
| С. Карніловіч | ам. д. | 150 |
| Г. Руднік | | 100 |
| К. Мерляк | | 100 |
| Б. Рагуля | | 100 |
| Е. Жызьнеўская | | 100 |
| Ю. Кіпель | | 100 |
| К. Муха | | 60 |
| Я. Щыбут | | 50 |
| В. Махнач | | 50 |
| У. Ракуць | | 50 |
| Н. Вайтовіч | | 50 |
| І. Сядура | | 50 |
| Н. Мароз | | 50 |
| С. Гутоўка | | 45 |
| Н. Чупракоў | | 40 |
| І. Ільчук | | 35 |
| С. К. | | 30 |
| В. Казлоўскі | | 30 |
| Ю. Касьцюкевіч | | 30 |
| Б. Кірка | | 25 |
| А. Пілецкі | | 25 |
| С. Арэхва | | 25 |
| Ч. Найдзюк | | 20 |
| Б. Грабінскі | | 20 |
| М. К. | | 20 |
| К. Калоша | | 20 |
| Б. Косараў | | 20 |
| М. Грэбень | | 20 |

*Праз нашага прадстаўніка сп. Б. Даніловіча:*

| | | |
|---|---|---|
| Р. Жук.-Грышкевіч | | 100 |
| А. Кіпель | | 100 |
| А. Субота | | 50 |
| А. С. | | 30 |
| Л. Шурак | | 30 |
| В. Бычкоўскі | | 20 |
| Ю. Арцішэнка | | 20 |
| М. Кунцэвіч | | 20 |
| В. Бурдзь | | 20 |
| Б. Даніловіч | | 20 |
| В. Стома | | 20 |
| П. Кажура | | 20 |
| А. Непейн | | 20 |
| А. Балкоўскі | | 20 |
| М. Каранеўскі | | 20 |
| У. Сьліўка | | 20 |
| Л. Стаганoвіч | | 20 |
| Ю. Нэруш | | 5 |
| | Усяго | 555 |

**Увага!** *Тыя, хто дастае газэту ад сп. Б. Даніловіча, павінны зь ім і разьлічвацца за яе.*

*Прыслалі беспасярэдня ў Рэдакцыю:*

| | | |
|---|---|---|
| Б. і А. Даніловічы ў памяць дарагога сына Эдварда | ам.д. | 500 |
| В. і З. Кіпель | | 100 |
| А. Кіпель | | 100 |
| М. Кіпель | | 50 |
| Н. Кудасава заміж вянка на магілу с.п. Ж. Церпіцкай | | 50 |
| М. і В. Махнач | | 50 |
| В. М. | | 50 |
| В. Богдан | | 50 |
| Ю. Рэпэцкі | | 40 |
| М. Скабей | | 40 |
| А. Хрэноўскі | | 35 |
| Я. Каханоўская | | 30 |
| М. Брыгілер | | 29 |
| П. Пікулік | | 25 |
| К. Акула | | 25 |
| П. Конюх | | 25 |
| Я. Крэсла | | 25 |
| Т. Бэрд | | 25 |
| В. Рамук | | 25 |
| М. Нікан | | 10 |
| А. Лашук | анг. ф. | 90 |
| С. Буткевіч | | 25 |
| З. Стантон | | 25 |
| М. Баяроўскі | | 25 |
| П. Мятла | | 15 |
| Я. Міхальчык | | 10 |

*Усім ахвярадаўцам, падпішчыкам і прадстаўнікам шчыры дзякуй!*

**Адміністрацыя «Беларуса»**